• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

4 чэрвеня, 1996 г. аўторак, №№ 138—139 (22941 — 22942)



# ЗВЯЗДА

*СКАНДАЛ*

## НА МЫТНІ ЧАРГОВАЕ «ЧП»: ЗНОЎ ЗЛАВІЛІ ЗА РУКУ ХАБАРНІКАЎ

**Такое ўражанне, што сёння найбольш безабароннай часткай насельніцтва аказаліся работнікі мытні. Мабыць менавіта таму некаторым з іх, каб «пракарміць» свае сем'і, прыходзіцца ісці на здзелку з сумленнем і ўводзіць на мяжы дадатковыя «мытныя пошліны», якія, праўда, ідуць не ў дзяржаўны бюджэт, а ва ўласную кішэню.**

Відаць, не лепшым чынам ішлі грашовыя справы і на Воранаўскай мытні. Інакш як растлумачыць той факт, што чарговымі «ахвярамі» супрацоўнікаў міліцыі сталі работнікі гэтага пункта. Справа ў тым, што супрацоўнікамі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Ашмянскага РАУС і работнікамі Смаргонскага міжраённага аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю затрыманы два мытнікі з Воранава. Імі аказаліся галоўны інспектар і інспектар Воранаўскай мытні. Не здолеўшы пераадолець спакусы, яны запатрабавалі ў расійскіх грамадзян «адкупныя» за праезд. Апошнія аказаліся людзьмі памяркоўнымі і вылажылі прадпрымальным мытнікам 1.200 долараў. Аднак, на вялікі жаль галоўнага інспектара і інспектара, у справу ўмяшалася міліцыя. Па гэтаму факту вядзецца следства.

**Ігар ГРЫШЫН.**

*ЦЭНЫ*

## МІЖГАРОДНІ ТРАНСПАРТ ПАДАРАЖЭЎ. ЧАРГА ЗА ПРЫГАРАДНЫМ

**Чэрвень разам са спякотай прынёс людзям і новыя цэны на праезд у міжгароднім транспарце.**

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік планавага аддзела «Мінскпасажыраўтатранса» Валерый Новік, павелічэнне тарыфу склала 16,7 працэнта, гэта значыць з 240 рублёў за кіламетр праезду тарыф вырас да 280 рублёў за кіламетр. Павелічэнне тарыфу звязана з тым, што ранейшы за 4 месяцы гэтага года не забяспечыў пакрыцця магчымых выдаткаў і, як вынік, транспартнікі панеслі страты.

Дарэчы, плануецца, што з 10 чэрвеня вырасце тарыф і на праезд у прыгарадным транспарце да 200—220 рублёў за кіламетр. Прычыны падаражання тыя ж.

**Ігар РЫГОРАЎ.**

## ГЕАГРАФІЧНЫ ЦЭНТР — ЯК СІМВАЛ НЕПАЎТОРНАСЦІ БЕЛАРУСІ

**У апошні дзень вясны каля вёскі Антонава Новасялкоўскага сельскага Савета Пухавіцкага раёна ва ўрачыстай абстаноўцы быў адкрыты спецыяльны геадэзічны комплекс у гонар геаграфічнага цэнтра Рэспублікі Беларусь.**

Такім чынам была пастаўлена лагічная кропка ў надзвычай цяжкай, але, без перабольшання, высакароднай як для саміх навукоўцаў, так і для ўсяго нашага грамадства працы беларускіх геадэзістаў па вылічэнню асаблівага і непаўторнага на тэрыторыі Беларусі месца. Аб складанасці і адначасова дакладнасці праведзеных работ сведчыць, напрыклад, той факт, што вынас геаграфічнага цэнтра на мясцовасць (вызначэнне кропкі на мясцовасці) ажыццяўляўся з дапамогай высокадакладнай спадарожнікавай сістэмы. Папярэднічалі гэтаму складаныя падлікі, адных версій напачатку было ажно 18! Цяпер жа каардынаты геаграфічнага цэнтра краіны і двух яго спадарожнікаў занесены ў Дзяржаўны геадэзічны каталог у якасці пунктаў дзяржаўнай геадэзічнай сеткі. Як падкрэслівалі падчас урачыстай цырымоніі адкрыцця геадэзічнага комплексу ўсе выступаючыя, значэнне гэтай падзеі цяжка пераацаніць як у пазнавальным, прыкладным, навуковым сэнсе, так і (што ці не найперш важна) у палітычным плане. У прыватнасці, як зазначыў у сваёй прамове навуковы эксперт праведзеных работ прафесар Аляксей Саламонаў, у кожнага народа ёсць святыні, якія ў цяжкія часы надаюць яму моцы, дазваляюць устаць з калень, не скарыцца. Гэтыя святыні — асаблівыя месцы на карце краіны, з якімі непарыўна звязана душа народа і дзякуючы якім яна захоўваецца. Таму, напэўна, нездарма выступаючыя падкрэслівалі, што менавіта ў такіх месцах «гаварыць і думаць хочацца толькі на матчынай мове», прыводзіць сюды сваіх дзяцей (якіх, дарэчы, на адкрыцці было вельмі шмат). Як сказаў дырэктар фірмы «Аэрагеакарт» Уладзімір Мкртчан, калі на гэтае месца прыйшлі нашыя нашчадкі — значыць яно сапраўды стане святым у плане еднасці ўсіх пражываючых на гасціннай зямлі Беларусі.

На жаль, да падзеі не выказалі ніякай увагі члены ўрада, народныя дэпутаты, хаця, як падкрэслівалася, геаграфічны цэнтр краіны знаходзіцца ўсяго за 70 км ад Мінска, што таксама сімвалічна, паколькі любая сталіца заўсёды атаясамліваецца з цэнтрам духоўнага жыцця ўсяго грамадства. Мо гэтага разумення пакуль і нестае нашым палітыкам?..

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## СЯМЁН ШАРЭЦКІ ЎРУЧЫЎ УЗНАГАРОДЫ ЧАРНОБЫЛЬСКІМ ЛІКВІДАТАРАМ

**За мужнасць і вялікі асабісты ўклад у пераадоленне згубных вынікаў чарнобыльскай катастрофы група ліквідатараў аварыі на ЧАЭС узнагароджана Ганаровымі граматамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Сярод іх — супрацоўнікі праваахоўных органаў, ваеннаслужачыя, будаўнікі, работнікі жыллёва-камунальнай гаспадаркі. 3 чэрвеня ў будынку парламента адбылася ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання.**



*Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі ўручае Ганаровую грамату старшаму інспектару лётчыку аддзела баявой падрыхтоўкі ВПС Рэспублікі Беларусь Генадзю Эцюеву.*

«Сотні тысяч нашых суграмадзян, рызыкуючы ўласным жыццём, сталі на абарону Беларусі ад ядзернай бяды, — сказаў Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Сямён Шарэцкі, уручаючы граматы ліквідатарам. — Іх подзвіг быў ацэнены ўжо ў першыя дні пасля аварыі, але і цяпер мы схіляем галовы перад тымі, хто ўдзельнічаў і цяпер прымае ўдзел у ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы». Кіраўнік беларускага парламента пажадаў узнагароджаным моцнага здароўя, шчасця і поспехаў ва ўсім.

Пасля атрымання ўзнагарод ліквідатары сустрэліся са старшынёй Камісіі Вярхоўнага Савета па праблемах чарнобыльскай катастрофы Віктарам Хомічам. У час гэтай сустрэчы размова ішла аб удасканаленні заканадаўства, якое датычыць сацыяльнай абароны ўдзельнікаў ліквідацыі аварыі на ЧАЭС.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## АРШАНСКІ ВАРЫЯНТ ПРЫЦЯГНУЎ УВАГУ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА

**Замежны вопыт аграрнікі рэспублікі вывучаюць ахвотна, выкарыстоўваючы любую існуючую магчымасць. Але, аказваецца, і ў самой рэспубліцы ёсць нямала павучальнага. Дырэктар эксперыментальнай базы «Вусце» Аршанскага раёна Іван Голуб, дэманструючы дасягнуты ў гаспадарцы ўзровень тэхналогіі вытворчасці кармоў прэм'ер-міністру Беларусі Міхаілу Чыгіру і іншым удзельнікам рэспубліканскага семінара, заявіў: «Наша канюшына — лепшая ў свеце!»**

Удзельнікам семінара самім трэба было пераканацца ў тым, што гэта зусім не квасны патрыятызм. Размова ішла аб беларускай канюшыне наогул і выведзеным сорце «Віцябчанка», узоры якога дэманстраваліся ў фае філіяла Беларускага навукова-даследчага інстытута земляробства і кармоў, размешчанага на базе гаспадаркі.

Несумненна, гэтыя дагледжаныя, здаецца, зусім без пустазелля палі і ўпарадкаваныя фермы маглі б навучыць усяму, што было ўключана ў праграму семінара. Наладжаны на базе кругласутачная пасьба кароў і цялят, граматны догляд пашы, высокі ўзровень механізацыі на ўборцы траў. Але ў плане работы прадугледжвалася наведванне калгасаў «1 Мая», «Дуброўка», эксперыментальнага аб'яднання «Задняпроўскае» і прадпрыемства «Экамол», дзе, як паказала азнаямленне, ёсць што пераняць. У калгасе «1 Мая», напрыклад, свой «канёк»: вытворчасць прасаванага сена, пры якім за ўвесь цыкл, ад падсеву траў да складзіравання, не выкарыстоўваецца ручная праца. У «Дуброўцы» добра зарэкамендавала сябе ўнясенне комплекснага азотнага ўгнаення (КАС). Тут жа завод «Гомсельмаш» арганізаваў своеасаблівую рэкламу вырабляемай тэхнікі, даставіўшы на семінарскія аб'екты касілкі, плюшчылкі, КСК-100 і іншае абсталяванне.

На жаль, рэкламы айчыннаму вопыту часцей за ўсё і не хапае. Рэспубліканскі семінар саслужыў у гэтым сваю службу. Падводзячы яго вынікі, кіраўнік урада Міхаіл Чыгір адзначыў вялікі ўклад, які аграпрамысловы комплекс рэспублікі прызначаны ўнесці ў справу вываду эканомікі з крызісу. Не прамаўчаў ён і аб тым факце, што аграрнікі самі маюць патрэбу ў дапамозе. Таму ўрад прымае ўсе неабходныя меры па стабілізацыі становішча на вёсцы. Сітуацыя, нягледзячы на ўсе цяжкасці, знаходзіцца пад кантролем. У мінулым годзе АПК з бюджэту накіравана 890 мільярдаў рублёў ільготнага крэдыту і 1,2 трыльёна з пазабюджэтнага фонду падтрымкі вытворцаў сельгаспрадукцыі. Сёлета дапамога складзе 4,3 трыльёна рублёў.

Аднак на змену разавым ін'екцыям павінна прыйсці дзяржаўная праграма рэфарміравання аграпрамысловага комплексу. Галоўная мэта рэформаў — максімальна наблізіць работніка да вынікаў яго працы. Прынятыя ў апошнія гады заканадаўчыя акты стварылі неабходныя прадпасылкі для развіцця ўсіх формаў гаспадарання на зямлі. У распрацаваным праекце праграмы рэфарміравання вёскі прадугледжана захаванне буйных вытворчасцей, дадзена прастора фермерству, прыватніку і замежнаму інвестару. Сельскагаспадарчыя праграмы атрымаюць ільготныя доўгатэрміновыя крэдыты пад 5—10 працэнтаў гадавых. Распрацоўваецца цяпер і праграма падтрымкі гаспадарак з горшымі глебава-эканамічнымі ўмовамі.

Для паспяховага выканання ўсяго намечанага ўжо ў гэтым годзе ў жывёлагадоўлі патрабуецца нарыхтаваць 30—37 цэнтнераў кармавых адзінак усіх відаў фуражу на ўмоўную галаву жывёлы. Вырашэнне комплексу праблем у АПК у цэлым немагчыма без жорсткай вытворчай і тэхналагічнай дысцыпліны на вытворчасці, у органах кіравання і ўлады на месцах.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЬ СТАЛА ЧЛЕНАМ ЦЭНТРАЛЬНА-ЕЎРАПЕЙСКАЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ

**Як паведамлялася ўжо, міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Сянько прыняў удзел у сустрэчы міністраў замежных спраў дзяржаў—членаў Цэнтральна-еўрапейскай ініцыятывы, якая завяршылася сёння ў Вене.**

На гэтым рэгіянальным форуме, які да гэтага часу аб'ядноўваў 10 дзяржаў — Аўстрыю, Боснію і Герцагавіну, Венгрыю, Італію, Македонію, Польшчу, Славакію, Славенію, Харватыю і Чэхію, — Рэспубліка Беларусь была прынята ў састаў паўнапраўных членаў ЦЕІ. Новымі членамі гэтай еўрапейскай структуры сталі таксама Албанія, Балгарыя, Румынія і Украіна.

Статус паўнапраўнага члена ЦЕІ дасць магчымасць істотна расшырыць удзел Беларусі ў агульнаеўрапейскіх працэсах, значна актывізаваць шматбаковае гандлёва-эканамічнае і гуманітарнае супрацоўніцтва ў цэнтральна-еўрапейскім рэгіёне.

У рамках нарады міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько сустрэўся з віцэ-канцлерам, федэральным міністрам замежных спраў Аўстрыі В. Шуселем. Аўстрыя з'яўляецца старшынёй ЦЕІ ў гэтым годзе. Акрамя таго, адбыліся рабочыя сустрэчы беларускага міністра з яго калегамі — міністрам замежных спраў Польшчы Д. Расаці, міністрам замежных спраў Украіны Г. Удавенкам.

Кіраўнікі знешнепалітычных ведамстваў дзяржаў—членаў Цэнтральна-еўрапейскай ініцыятывы, якая цяпер аб'ядноўвае 15 краін, былі прыняты прэзідэнтам Аўстрыйскай Рэспублікі Томасам Клестылем.

**Аддзел друку і інфармацыі МЗС Беларусі.**

## МІХАІЛ ПАДГАЙНЫ — КІРАЎНІК ГАЛОЎНАГА ЎПРАЎЛЕННЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЙ ІНФАРМАЦЫІ АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА

**Міхаіл Падгайны назначаны начальнікам Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Распараджэнне аб гэтым падпісаў кіраўнік адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч.**

Міхаіл Васільевіч Падгайны нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Ізбішча Пухавіцкага раёна. У 1975 годзе скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут, у 1991 годзе — Акадэмію грамадскіх навук. Працоўную дзейнасць пачаў у якасці інжынера МВА вылічальнай тэхнікі. Быў на камсамольска-партыйнай рабоце, намеснікам міністра культуры рэспублікі. Затым кіраваў Камітэтам па справах моладзі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. Апошнія паўгода Міхаіл Падгайны працаваў дырэктарам Гуманітарных праграм рэспубліканскага Цэнтра інфарматыкі ЮНЕСКО.

**БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**№ 199**

**АБ ПРЫСВАЕННІ М.І.ДЗЕМЧУКУ ГАНАРОВАГА ЗВАННЯ «ЗАСЛУЖАНЫ ДЗЕЯЧ НАВУКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ»**

За значны ўклад у развіццё беларускай навукі, падрыхтоўку навуковых і інжынерных кадраў прысвоіць рэктару Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі Дземчуку Міхаілу Іванавічу ганаровае званне «Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь».

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

24 мая 1996 г., г.Мінск.

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ «ЗВЯЗДЫ»! Паведамляем вам, што згодна з дасягнутай дамоўленасцю паміж рэдакцыяй газеты «Звязда» і рэспубліканскім дзяржаўным аб'яднаннем «Белпошта» ўсе паштовыя аддзяленні рэспублікі прымаюць падпіску на нашу газету як на месяц, трэці квартал, так і ў цэлым на другое паўгоддзе. Гэта рашэнне кіраўніцтва «Белпошты» давяло да адказных выканаўцаў на месцах.**

***Нагадваем, што падпісны кошт «Звязды» на паўгоддзе для індывідуальных падпісчыкаў складае 81.600 рублёў, на квартал — 40.800, на месяц — 13.600.***

«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

## Васіль СТРАЖАЎ:

# «БУДУЧЫНЯ БЕЗ АДУКАЦЫІ НЕМАГЧЫМАЯ. УЗРОВЕНЬ ВЕДАЎ ВУЧНЯЎ ЗАЛЕЖЫЦЬ НЕ ТОЛЬКІ АД НАСТАЎНІКА, АЛЕ І АД БАЦЬКОЎ...»



**Сустрэча з міністрам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Васілём Іванавічам Стражавым на старонках «Звязды» далёка не першая. Удзяляючы значную ўвагу пытанням народнай асветы, газета зыходзіць з пераканання, што будучыня належыць людзям дасведчаным, адукаваным. Светлае заўтра наўрад ці пабудуюць адно толькі юныя гандляры са стадыёна «Дынама», што ў Мінску.**

**Вось і міністр адукацыі і навукі Васіль Іванавіч Стражаў перакананы: «Будучыня без адукацыі немагчымая». Пры гэтым ён дадае: «Узровень ведаў вучняў залежыць не толькі ад настаўніка, але і ад бацькоў...» Сённяшняя публікацыя — запіс «прамой лініі», якую з міністрам адукацыі і асветы «Звязда» правяла для сваіх чытачоў напрыканцы мая.**

***Званок з Навагрудка. Дырэктар раённай спартыўнай школы Міхаіл Міхайлавіч Фоцька. Першае пытанне:* «Як выконваць праграму па фізкультуры, калі за апошнія пяць гадоў мы не можам набыць спартыўны інвентар?»**

— Праблема, узнятая вамі, заключаецца зусім не ў адсутнасці спартыўнага інвентару і абсталявання. Спартыўны інвентар ёсць у дастатковай колькасці ў дзяржаўным гандлі. Прычына, зразумела, хаваецца ў іншым: у нізкай плацежаздольнасці навучальных устаноў і аддзелаў адукацыі.

Зараз рэспубліканскі цэнтр фізічнага выхавання і спорту Міністэрства адукацыі і навукі распрацоўвае прыкладны пералік спортінвентару і абсталявання, неабходных для рэалізацыі вучэбнай праграмы па фізвыхаванню, якія ў абавязковым парадку будуць набывацца як за кошт бюджэтных сродкаў, так і з прыцягненнем небюджэтных асігнаванняў.

Дарэчы, магчыма, чытачам цікава будзе даведацца, што ў мінулым 1995 годзе дашкольнымі ўстановамі, а таксама школамі, гімназіямі і д. т. п. на набыццё спартыўнага інвентару патрачана 23,5 мільёна рублёў.

***Дзякуй. І другое пытанне:* «У адной са школ дырэктар (па спецыяльнасці хімік) сам праводзіць заняткі па фізічнай культуры. І гэта ў той час, калі 2 настаўнікі фізкультуры ў гэтай жа школе засталіся без работы. Як вы пракаменціруеце гэты факт?»**

— Трэба, безумоўна, разбірацца з гэтым выпадкам дэталёва, улічваючы ўсе акалічнасці. Думаю, навагрудскім кіраўнікам народнай адукацыі не лішнім будзе ведаць наступнае.

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб фізічнай культуры і спорце» (артыкул 21) да педагагічнай дзейнасці па фізічнай культуры і спорту дапускаюцца асобы, якія маюць дыплом ці пасведчанне аб спецыяльнай падрыхтоўцы. Гэтага палажэння і прытрымліваецца Міністэрства адукацыі і навукі.

**Вас турбуе Ірына Уладзіміраўна Тэардоль. Працую лабаранткай у Свіслацкай школе. Водпуск у мяне 24 рабочыя дні, а чаму не 48 ці 36, як у настаўнікаў?**

— Згодны, што і работа лабаранта патрабуе большай павагі. Вы таксама працуеце з дзецьмі. Але пакуль што дзейнічае іншы закон. У адпаведнасці з Пералікам пасад работнікаў з ненарміраваным рабочым днём, якім можа прадастаўляцца дадатковы водпуск (зацверджаны Міністэрствам асветы СССР 17 красавіка 1968 года), лабаранту ўстаноўлены водпуск працягласцю 24 рабочыя дні (12 дзён — асноўны, 12 дзён — дадатковы).

***Зяневіч Надзея Іванаўна. Настаўніца-пенсіянерка з Пухавіцкага раёна:* Дачка працуе ў Узлянскай базавай школе. Завочніца. Надзея Іванаўна цікавіцца, чаму не аплачваюць сесію да канца.**

— І зноў жа давайце звернемся да закона. Існуючае заканадаўства (артыкул 199 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь) прадугледжвае прадастаўленне льгот згодна з артыкуламі 200 —204 Кодэкса законаў аб працы (у тым ліку і аплатных водпускаў) работнікам, якія навучаюцца ў вячэрніх ці завочных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, у выпадку, калі яны вучацца па накіраванню наймальніка альбо ў адпаведнасці з дагаворамі, якія заключаны з наймальнікам (на падрыхтоўку, калектыўным або працоўным).

Калі работнік паступіў на вучобу самастойна, то ён павінен вырашаць звязаныя з гэтым пытанні самастойна ці па дамоўленасці з наймальнікам.

Гэты парадак распаўсюджваецца на асоб, якія паступілі ў навучальныя ўстановы на вячэрнюю ці завочную форму навучання пасля 26 лютага 1993 года (гэта значыць пасля ўвядзення ў дзеянне існуючага Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь).

Асобы, якія паступілі ў навучальныя ўстановы да 26 лютага 1993 года, карыстаюцца раней устаноўленымі льготамі да заканчэння гэтых навучальных устаноў незалежна ад наяўнасці накіравання наймальніка або дагавора з ім.

***Званок з Мінска. Алізарчык. Пытанне:* «Мой пляменнік жыве ў Брэсце, у мікрараёне паблізу СШ № 33. Адмоўлена ў прыёме ў беларускі клас. Чаму?»**

— Мы пастараемся высветліць. ***(Ужо пасля, як запіс «прамой лініі» рыхтаваўся да друку, міністр адукацыі і навукі даў канкрэтны адказ на пытанне спадара Алізарчыка: «На сённяшні дзень ідзе камплектаванне першых класаў. Пакуль што ў Брэсцкай СШ № 33 ёсць толькі адна заява на навучанне ў першым класе на беларускай мове. Пасля завяршэння камплектавання першых класаў высветліцца больш рэальная карціна, аднак у любым выпадку ваша пытанне будзе вырашана станоўча».)***

***Некалькі пытанняў — ад настаўніка з Бялыніч, Марозава Анатоля Іванавіча. Першае:* «Чаму не вытрымліваецца арт. 42 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, артыкулы 77, 83, 96 Кодэкса законаў аб працы, Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 27 лістапада 1995 г. № 483 «Аб забеспячэнні своечасовай выплаты заработнай платы»? Не працуюць заключаныя калектыўныя дагаворы, якія прадугледжваюць своечасовую выплату авансу і заработнай платы. Я працую настаўнікам Свяцілавіцкай СШ Бялыніцкага раёна. Наша школа (пытанне было зададзена 21 мая) не атрымлівала ні авансу, ні зарплаты за красавік. Жонка працуе таваразнаўцам, аклад у яе невялікі. Тым болей, што амаль усю майскую зарплату яна забрала ў аванс. Сёння на ўсю сям'ю з чатырох чалавек засталося 7 тысяч рублёў, а да таго ж я жыву ў Бялынічах, а працую ў Свяцілавічах. Дарога абыходзіцца ў 4 тысячы рублёў. Як загадаеце жыць далей?..»**

— Маючая месца ў шэрагу раёнаў несвоечасовая выплата заработнай платы звязана з дэфіцытам мясцовых бюджэтаў, які стварыўся ў выніку нерытмічнага, недастатковага паступлення падаткаў і непадаткавых збораў.

Улічваючы гэтыя фактары, а таксама адпускную кампанію, Міністэрства адукацыі і навукі звярнулася ў Адміністрацыю Прэзідэнта, Кабінет Міністраў, Міністэрства фінансаў з хадайніцтвам аб прадастаўленні аблвыканкомам неабходных крэдытных рэсурсаў для пагашэння запазычанасці па заработнай плаце.

***Зноў жа пытанне ад спадара Марозава*: «Поўная неразбярыха з гісторыяй. Гэта ж адзін з прадметаў, па якому Міністэрства адукацыі не прапаноўвае настаўнікам прадметнага часопіса. З падручнікамі таксама неразбярыха. Альбо іх зусім няма, як у 10-11 класах, альбо хранічна не хапае, альбо яны зусім непрыдатныя, як, напрыклад, падручнік «Гісторыя Беларусі» для 8 класа пад рэдакцыяй М. Біча. Кніга — грамадская, параграфы дужа доўгія. У тэксце — суцэльныя лічбы. Напрыклад, дзесяты параграф тэмы «Транспарт. Прамысловасць. Гарады» змяшчае 150 лічбаў. Хіба гэта можа ўмясціць вучнёўская памяць?.. А як дзеці будуць здаваць гісторыю ў 9 класе, калі на 15 вучняў прыпадае ўсяго толькі 5 падручнікаў? Што датычыцца публікацый у «Настаўніцкай газеце», то яны непаслядоўныя і нерэгулярныя...»**

— Даволі сур'ёзнае пытанне. І не так лёгка адказаць на яго. Фактычна — адказваць трэба не толькі міністэрству, але і непасрэдна вучоным. І ўсё ж — па сутнасці... Усе вучэбныя дапаможнікі па гісторыі Беларусі і сусветнай гісторыі 1993 года выдання прайшлі адпаведную экспертызу. Аўтарскія калектывы, у састаў якіх увайшлі і настаўнікі, перапрацавалі гэтыя кнігі з улікам заўваг і прапаноў.

На дадзены момант выдадзены падручнік па гісторыі Беларусі для 5 класа і рэкамендаваны да выдання дзяржаўнай камісіяй па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы вучэбны дапаможнік па сусветнай гісторыі для 11 класа (частка II), які паступіць у школы да пачатку навучальнага года.

На разгляд дзяржаўнай камісіі ўжо напрыканцы мая 1996 года вынесены падручнікі па гісторыі Беларусі для 4, 6, 9 класаў, вучэбны дапаможнік па гісторыі Беларусі для 11 класа і падручнікі па сусветнай гісторыі для 5 і 6 класаў.

Астатнія рукапісы будуць разгледжаны ў бліжэйшы тэрмін. Мяркуецца ў асноўным завяршыць перавыданне гэтых кніг у 1996 годзе.

Адначасова створаны новыя аўтарскія калектывы па падрыхтоўцы паралельных падручнікаў па гісторыі Беларусі.

Нагадваем, што побач з вучэбнымі дапаможнікамі 1993 года выдання можна карыстацца падручнікам па гісторыі Беларусі пад рэдакцыяй М. Загарульскага 1989 і 1993 гадоў выдання.

Згодны, што вучэбныя дапаможнікі М. В. Біча, У. Н. Сідарцова і іншых (1993 года выдання) перагружаны і недастаткова адаптаваны да ўзроставых магчымасцей вучняў. У сувязі з гэтым у 1994 і 1995 гг. у «Настаўніцкай газеце» былі надрукаваны метадычныя рэкамендацыі і тэматычнае планаванне, дзе былі дадзены канкрэтныя прапановы па скарачэнню аб'ёмаў вывучаемага матэрыялу.

У 1995 годзе выйшлі дапрацаваныя праграмы, у якіх таксама прадугледжана скарачэнне аб'ёму абавязковага матэрыялу.

З пачатку 1996 года ў «Настаўніцкай газеце» друкуюцца навукова-метадычныя рэкамендацыі ў дапамогу настаўніку па рабоце з гэтымі падручнікамі.

У рэспубліцы выдаецца «Беларускі гістарычны часопіс», прызначаны для выкладчыкаў гісторыі ВНУ і настаўнікаў гісторыі, адным з заснавальнікаў якога з'яўляецца і Міністэрства адукацыі і навукі.

Што датычыцца забеспячэння падручнікамі гісторыі Беларусі 9 класа менавіта вашай школы, дык і гэта пытанне будзе вырашацца. Але — мясцовымі органамі кіравання адукацыяй. Якім чынам? Магчыма, шляхам пераразмеркавання гэтых дапаможнікаў паміж школамі.

***Наступнае пытанне — таксама ад настаўніка са Свяцілавіч.* Нешта незразумелае адбываецца з праектам «Атэстацыі педработнікаў». Меркавалася, што першую катэгорыю будуць прысвойваць у школах у выніку атэстацыі. Ці не так? Падзялюся сваім уласным прыкладам. Мой педагагічны стаж складае болей як пяць гадоў. Маю больш як 40 надрукаваных работ па гісторыі раёна. Друкаваўся ў газеце «Магілёўская праўда», у магілёўскім гісторыка-краязнаўчым часопісе «Магілёўская даўніна» і г. д. Узнагароджаны знакам «За актыўную работу» як прызёр рэспубліканскага конкурсу-агляду краязнаўчых матэрыялаў, прысвечанага 50-годдзю Перамогі. І ўсё адно сяджу на другой катэгорыі...»**

— Палажэнне аб атэстацыі педагагічных работнікаў сістэмы адукацыі (акрамя ВНУ) Рэспублікі Беларусь, зацверджанае загадам міністра адукацыі і навукі ад 7.12.1995 г. № 456, уводзіцца ў дзеянне з 1 верасня 1996 года.

У адпаведнасці з гэтым дакументам першая катэгорыя прысвойваецца педработнікам атэстацыйнай камісіяй навучальнай установы без здачы кваліфікацыйнага экзамена. Калі вы, атрымаўшы другую катэгорыю, адпрацавалі ў школе на пасадзе настаўніка 3 гады, то маеце права прэтэндаваць у 1996/1997 навучальным годзе на першую катэгорыю.

**— *Настаўнік-пенсіянер Віктар Скараход з Мінска* цікавіцца тым, што робіць Міністэрства адукацыі і навукі дзеля захавання беларускай мовы ў школе.**

— Ажыццяўляючы моўную палітыку ў навучальна-выхаваўчых установах, Міністэрства адукацыі і навукі кіруецца заканадаўчымі актамі па гэтым пытанні: прымае неабходныя меры па забеспячэнню рэальнага, гарантаванага Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, права выбару мовы навучання.

Аднак, сапраўды, у апошні час, пасля праведзенага леташняга майскага рэферэндуму, бацькоўская грамадскасць пачала апантана патрабаваць пераводу навучання на рускую мову. Гэта вельмі ўскладніла работу Міністэрства адукацыі і навукі, навучальна-выхаваўчых устаноў.

Разам з тым Міністэрства адукацыі і навукі прымае неабходныя меры па захаванню беларускай мовы як мовы навучання і выхавання ва ўсіх тыпах навучальных устаноў.

***Пытанне ад Івана Іванавіча Астроўскага, дацэнта БДУІР (г. Мінск):* «Паважаны Васіль Іванавіч! Быў час, калі амаль ва ўсіх навукова-даследчых, вышэйшых і сярэдніх навучальных установах, ПТВ, абсерваторыях, палацах піянераў і школьнікаў, нават у аддзяленнях Акадэміі навук і ў шэрагу іншых (творчых, мастацкіх) устаноў дзейнічалі гурткі навукова-тэхнічнага таварыства вучняў г. Мінска. І не толькі ў Мінску — па ўсёй Беларусі! Як чалавек не староннні, а актыўны ўдзельнік хацеў бы даведацца аб вашай ацэнцы дзейнасці (язык не паварочваецца сказаць былога, бо 16 мая адбылася 15-я канферэнцыя, праўда, пад іншымі сцягамі) таварыства, аб яго далейшым лёсе, а заадно і аб лёсе падрыхтоўчых аддзяленняў ВНУ».**

— Сапраўды, з 1982 года па 1991 год функцыянавала навукова-тэхнічнае таварыства навучэнцаў, якое ў 1992 годзе было пераўтворана ў навуковае таварыства. Цяжкасці ў матэрыяльна-тэхнічным і фінансавым забеспячэнні закранулі і навуковыя гурткі навучэнцаў, але ж іх дзейнасць, як вы ведаеце, усё ж такі працягваецца. У прыватнасці, штогод праводзяцца навуковыя канферэнцыі.

На жаль, навуковай работай з навучэнцамі сёння ў большай ступені заняты педагогі пазашкольных устаноў і школ. У Мінску іх дзейнасць каардынуе аддзел інтэлектуальнай творчасці Палаца дзяцей і моладзі.

Што ж датычыцца іх далейшага лёсу, то яны будуць дзейнічаць.

Калі ў паважанага Івана Іванавіча ёсць канкрэтныя прапановы для паляпшэння спраў, то мы гатовы іх вывучыць.

**Матэрыялы «Прамой лініі» запісаў і падрыхтаваў да друку Кастусь СЕМЯНОВІЧ.**

**(Заканчэнне будзе).**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ...УЗЯЦЬ ТЭЛЕВІЗАР НА ПРАКАТ

**КАЛІСЬЦІ ДАЎНО (многія ўжо нават забыліся пра ўсе цяжкасці «застойнага» жыцця і захавалі ў памяці выключна светлы вобраз развітога сацыялізма) каляровыя тэлевізары былі прадметам раскошы. Купіць іх маглі далёка не ўсе: не толькі з-за дарагоўлі, але і з-за адсутнасці іх на прылаўках магазінаў. Вось тады, падлічыўшы ўсе плюсы і мінусы, наша сям'я ўзяла тэлевізар на пракат. Апарат быў новы, год карыстання абыходзіўся ў 120 рублёў.**

Вядома, знайшоўшы 600—700 рублёў, мы маглі б купіць свой уласны тэлевізар. Але не было ўпэўненасці, што ён не сапсуецца на 2-і дзень пасля заканчэння тэрміну гарантыі.

Атэлье пракату засталіся непахіснымі па сённяшні дзень: у часовае карыстанне можна ўзяць многае, акрамя, хіба што прадуктаў харчавання і сродкаў асабістай гігіены. Праўда, цяпер прычынай для звароту да паслуг пракату з'яўляецца ці адсутнасць у рэзерве буйной сумы грошай, ці асаблівы стан душы (некаторыя людзі не схільныя да аседлага ладу жыцця і стараюцца не абзаводзіцца буйнагабарытнай маёмасцю). Але ніяк не адсутнасць тавараў у дзяржаўным і прыватным гандлі — з гэтым, дзякуй Богу, усё ў парадку.

А можа, браць рэчы на пракат усё яшчэ выгадна? Паспрабуем у гэтым разабрацца, але спачатку — аб агульных правілах работы службы пракату.

Для таго, каб узяць рэч на пракат, трэба мець пры сабе, акрамя грошай, пашпарт з прапіскай у дадзенай мясцовасці ці пасведчанне асобы (для ваеннаслужачых). Пасля афармлення абавязацельства — квітанцыя з подпісамі наймальніка (г. зн., нашай з вамі) і прыёмшчыка не спяшайцеся грузіць жаданы прадмет на аўтатранспарт (апошні ёсць у атэлье, але перавозку аплачвае наймальнік). Прыёмшчык абавязаны праверыць спраўнасць агрэгата, каб дома вас не чакала расчараванне і паўторны візіт у атэлье не трывожыў душу. Такая ж праверка спраўнасці ажыццяўляецца пры вяртанні рэчы, але цяпер прыёмшчык аб ёй наўрад ці забудзецца. Атэлье абавязана ліквідаваць няспраўнасць ці замяніць апарат, які сапсаваўся, за свой кошт, акрамя выпадкаў узнікнення няспраўнасці па віне наймальніка (цікава, якім чынам і наколькі правільна ўстанаўліваецца першапрычына паломкі?)

Наймальнік павінен: не пашкодзіць, не згубіць, вярнуць прадмет у камплекце, у патрэбны час, у патрэбнае месца, з захаванай пломбай. Як бачыце, усё вельмі проста.

Часцей за ўсё бяруць на пракат дарагія прадметы бытавой тэхнікі, якімі карыстаюцца штодзённа: тэлевізар, халадзільнік, радзей — пральную машыну. У салоне пракату «Калі ласка» мы пацікавіліся расцэнкамі на аказваемыя паслугі. Аплата вельмі спрошчаная: ёсць фіксаваная цана за адны суткі карыстання, якую памнажаюць на замоўленую наймальнікам колькасць дзён пракату. Ніякіх скідак пры працяглым тэрміне пракату не існуе.

Такім чынам, на пракат можна ўзяць халадзільнікі марак «Мінск», «Саратаў», «Снайге»: ад 2000 да 45.000 рублёў за суткі. Разбежка ў цане абумоўлена аб'ёмам, навізной мадэлі, а значыць, коштам халадзільніка. У наяўнасці меліся толькі пральныя машыны «Малютка», адны суткі пракату якіх каштуюць 1500 рублёў. Каляровыя тэлевізары «Гарызонт», «Віцязь», радзей — «Электрон» даюцца ў часовае карыстанне па цане 2200—5000 рублёў за суткі (зноў жа, у залежнасці ад кошту апарата). Аднадзённы пракат чорна-белых тэлевізараў абыдзецца ў 900—2800 рублёў.

Сам па сабе кошт пракату таго ці іншага прадмета не ўяўляе асаблівай цікавасці, тым больш, што пра цэны можна даведацца, набраўшы нумар тэлефона любога атэлье. Куды важней ведаць умовы пракату і быць дасведчаным у сэнсе яго мэтазгоднасці.

Параўноўваць кошт пракату і кошт пакупкі прадмета можна толькі для аналагічных мадэляў, што цяжка, таму што атэлье не могуць абнавіць увесь свой асартымент. І тым не менш, калі ўзяць максімальны кошт пракату, напрыклад, каляровага тэлевізара — 5000 рублёў — і памножыць яго на 365, то атрымліваем 1.825.000 рублёў за год. Такім чынам, за 2 гады карыстання тэлевізарам з атэлье пракату вы выплачваеце кошт новага тэлевізара «Гарызонт» у дзяржаўным гандлі (не кажучы ўжо пра прыватныя).

**Вольга СТАЎРОЎСКАЯ.**

# СІНДРОМ ВЯРТАННЯ?

**У апошні час невялікі гарадок Паставы на Віцебшчыне перапаўняюць чуткі пра вельмі хуткае вяртанне. Аб чым жа ідуць размовы?**

У свой час Паставы былі адным з буйнейшых і, відаць, самых засакрэчаных ваенных гарнізонаў мілітарызаванай тады Беларусі. Тут размяшчаліся ракетная дывізія войскаў стратэгічнага прызначэння, верталётная часць пры ёй, два авіяцыйныя палкі знішчальна-штурмавой авіяцыі, часці проціпаветранай абароны... Пералік можна прадоўжыць.

Што азначала гэта для жыхароў гарадка? Не толькі пастаянны роў рухавікоў магутных самалётаў над галавою, не толькі нябачную, але страшную небяспеку таго, што побач знаходзіцца ядзерная зброя, не толькі ўвогуле празмерную прысутнасць вайскоўцаў. Сотні маладых людзей ішлі служыць у вайсковыя часці прапаршчыкамі і сяржантамі, сотням цывільных знаходзілася праца, крамы гарнізоннага ваенгандлю былі нашмат багацейшыя, чым у спажыўкааперацыі. Былі свае выгады і ў мясцовага кіраўніцтва.

Але прыйшла перабудова з усімі яе наступствамі. Першай адправілася ў Расію ракетная дывізія, потым адзін з авіяпалкоў, які быў прызнаны расійскім (дарэчы, некаторыя яго лётчыкі ваююць цяпер у небе Чачні). Неўзабаве і другі авіяполк, прызнаны беларускім, быў расфарміраваны. Такім чынам, засталіся ад буйнога ваеннага гарнізона, дзе па ўсіх «чырвоных» святах праходзіў ваенны (і немалы) парад, як кажуць, рожкі ды ножкі. Некалькі зусім нязначных падраздзяленняў ды шпіталь, што падпарадкавалі пагранічнікам.

І вось пайшлі ўпартыя чуткі, што расійскія войскі будуць вяртацца. Падставы для гэтага з'явіліся ў людзей найперш з паведамленняў аб палітычных падзеях, прынамсі беларуска-расійскіх зносінах. Адназначна можна сказаць, што ў большасці людзей гэтыя чуткі выклікаюць пачуццё задавальнення. Падзеі знікнення гарнізона зрабілі сотні людзей беспрацоўнымі, разлучылі сотні сем'яў. Яшчэ і сёння многія і многія афіцэры прыязджаюць з Расіі сюды, каб праведаць сям'ю.

Не будзем абмяркоўваць ні асаблівасцей людской псіхалогіі, ні тым больш аспектаў ваенна-палітычных.

А ці ёсць куды вяртацца? База ракетнай дывізіі была літаральна расшкуматана яшчэ ў працэсе гэтага слыннага вываду. Пабудовы стаялі без акон, адбівалася плітка, зрываліся шпалеры. Былі і больш «прамысловыя» падыходы: кранамі выдзіраліся пліты з бетонных дарог. Ну а пра шахты для ракет і гаварыць няма чаго — тут аўтагенам распілоўваліся ўваходы і медзь (на продаж літоўцам) выдзіралася да самых глыбінь. Недзе для гэтага прыганяліся нават магутныя помпы, бо ў шахтах была вада.

Сёння ў гарадках дывізіі камерцыйныя і некамерцыйныя прадпрыемствы нешта спрабуюць рабіць. Але і ў тых, і ў другіх не хапае грошай.

Горкі вопыт вываду ракетнай дывізіі ўлічылі пры вывадзе авіяпалкоў. На аэрадроме, адным з лепшых на Беларусі, пакінута камендатура, якая ў асноўным займаецца тым, што ахоўвае частку аб'ектаў. Астатнія перадаюцца гораду. Ды трэба ўлічыць і тую акалічнасць, што суседні, літоўскі бок супакоіўся ў сваіх міждзяржаўных захадах толькі тады, калі аэрадром пакінуў апошні самалёт. Занадта блізка да іхняй мяжы.

Але ўспамінаецца, што і вывад войскаў спачатку быў толькі чуткамі.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

***Леаніл РАЗЛАДАЎ малюе на тэму дня***










# ВЭКСАЛЬ ВЫРАШАЕ ПРАБЛЕМУ НЕПЛАЦЯЖОЎ

**ПАВОДЛЕ ДАНЫХ Мінгарвыканкома, амаль усе прадпрыемствы горада зведваюць цяпер значны фінансавы голад. Асабліва вострым ён робіцца, калі прадпрыемства трапіць у пастку неплацяжоў. Намеснік старшыні Мінгарвыканкома Мікалай Пацкевіч назваў вельмі трывожныя лічбы. Толькі за электраэнергію па г. Мінску неплацяжы склалі 1 трлн. 100 млрд. рублёў, за газ яны роўныя 100 млрд. руб. Нядоімка па падатках складае больш як 500 млрд. руб., у тым ліку каля 100 млрд. руб. — у мясцовы бюджэт.**

У гэтым выпадку, на думку гарадскіх уладаў, значную дапамогу можа аказаць сістэма вэксальных разлікаў як спосаб развязкі неплацяжоў. Працягласць жыцця вэксаля не больш як 90 дзён. А калі ўлічыць, што першы вэксаль пачаў працаваць у Мінску 6 лютага— значыць можна падводзіць вынікі работы за 3 месяцы. На сённяшні дзень у вэксальным абарачэнні прынялі ўдзел 188 прадпрыемстваў горада. У якасці эмітэнтаў выступілі 16 прадпрыемстваў. Яны выпусцілі вэксалі на агульную суму 19 млрд. 740 млн. руб. У выніку свайго руху вэксалям удалося «развязаць» неплацяжы на суму 154 млрд. руб.

Асаблівасць гэтай вэксальнай сістэмы — у яе поўнай кіруемасці, дзе не дапускаецца свабоднага хаджэння вэксаля ў эканамічнай прасторы. Прадугледжваецца зрабіць яго абсалютна ліквідным. Кіруе вэксалем страхавая кампанія, якая папярэдне разлічвае шлях яго праходжання. Калі вэксаль робіць адзін абарот, ён абыходзіцца прадпрыемству, якое яго выпусціла, у 35,5 працэнта гадавых. Але пры павелічэнні абаротаў працэнтная стаўка змяншаецца. Прадпрыемства Мінскбуд выпусціла вэксаль на суму 1 млрд. рублёў, а змагло пагасіць 4 млрд. 100 млн. рублёў неплацяжоў. Такім чынам, для іх працэнтная стаўка склала 2,5 працэнта гадавых. Вэксаль-рэкардсмен праходзіць за час свайго жыцця больш як 20 індасаментаў. Вэксальнае абарачэнне цяпер знаходзіцца на стадыі свайго станаўлення.

Аднак ужо сёння сталічныя ўлады плануюць да канца года развязаць гэтым спосабам неплацяжоў не менш чым на адзін трыльён рублёў. Цяпер, дзякуючы ўкараненню вэксальных разлікаў, мэрыя Мінска змагла прафінансаваць такія галіны, як ахова здароўя — на суму 5,6 млрд. руб., упраўленне транспарту — 7,9 млрд. руб, будаўніцтва метрапалітэна — 3,1 млрд. руб., народная адукацыя — 2,4 млрд. руб. За спажываемую электраэнергію плацяжы склалі 14,2 млрд. руб.

Цяпер яшчэ дзве вобласці — Брэсцкая і Гомельская — вырашылі ўвайсці ў сістэму вэксальнага абарачэння, што дасць магчымасць стварыць больш шырокую сетку ўзаемаразлікаў.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# ВЫПІЎ, ПАТАНЦАВАЎ, ПАБІЎСЯ...

**Добрымі намерамі выбрукаваны шлях у пекла. Справядлівасць гэтага назірання яшчэ раз могуць пацвердзіць у Магілёве, дзе гарвыканком, каб наладзіць адпачынак мясцовай моладзі, вырашыў па выхадных і святочных днях арганізаваць на адной з галоўных плошчаў горада дыскатэкі.**

Аднак з-за непераадольнай любові магілёўскіх тынэйджэраў да моцных напояў эксперымент, відавочна, не атрымаўся. Дастаткова сказаць, што лік затрыманых міліцыяй нецвярозых танцораў з незайздроснай стабільнасцю ішоў на дзесяткі. А неўзабаве справа дайшла да масавых боек. Таму вынік быў лагічным — распараджэннем мэрыі правядзенне дыскатэк на свежым паветры спынена.

**Сяргей ГРЫБ.**

*КРЫМІНАЛ*

# НА МАШЫНЕ — ЗА ВЕПРАМ

ПРАЦЯГВАЕЦЦА браканьерства, забруджванне навакольнага асяроддзя. У той жа час праваахоўныя органы дапускаюць збоі ў барацьбе з парушэннем адпаведнага заканадаўства. Аб гэтым сведчаць вынікі праверак, праведзеных Мінскай прыродаахоўнай пракуратурай. Многія адміністрацыйныя матэрыялы і крымінальныя справы, па якіх вінаватыя прыцягваюцца да адказу за незаконнае паляванне або незаконны занятак рыбным промыслам, праводзяцца, мякка кажучы, на недастаткова прафесіянальным узроўні. Напрыклад, работнікамі Шацкай паляўнічай гаспадаркі ва ўрочышчы «Вараніцкае балота» былі затрыманы жыхары г. Старыя Дарогі Г. Хмелеў, В. Лычоў, Н. Мядзведзь, А. Сушэня, А. Сасноўскі. Пры сабе затрыманыя мелі 4 ружжы, у кузаве аўтамабіля знаходзілася туша забітага дзіка. У Пухавіцкім РАУС затрыманыя растлумачылі, што ва ўрочышча выехалі паганяць кабаноў, якія наносілі шкоду пасадкам бульбы на палях саўгаса «Слуцкі». Для большага поспеху справы ездзілі на аўтамабілі «УАЗ-452» з яшчэ дзвюма спецыяльна прыстасаванымі фарамі, падключанымі да аўтамабільнага акумулятара. Праследуючы жывёлу, зразумела ж, стралялі, і даволі вынікова.

Правёўшы далейшую праверку па матэрыялу, работнік Слуцкага ГРАУС у званні капітана вынес пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, склаўшы толькі адміністрацыйныя пратаколы.

Сваё рашэнне матываваў тым, што, аказваецца, парушальнікі адстрэльвалі дзікіх кабаноў «не для асабістых патрэб, а з мэтай знішчэння жывёл, якія наносяць шкоду пасевам». Вядома, звычайныя адгаворкі з мэтай прыхаваць самае звычайнае браканьерства. Пракуратурай адменена гэта пастанова і ўзбуджана крымінальная справа па прыметах злачынства, прадугледжанага ч. 2 арт. 163 КК Рэспублікі Беларусь (незаконнае паляванне), дзе санкцыя прадугледжвае пазбаўленне волі тэрмінам да 3 гадоў.

Або ўзяць другі прыклад Уздзенскім РАУС была ўзбуджана крымінальная справа па факту незаконнага адстрэлу двух аленяў і дзікага кабана ў Літоўскім лясніцтве. Узбуджана крымінальная справа. Аднак дапытаны былі толькі два егеры, якія выязджалі на месца здарэння. З іх тлумачэнняў вынікае, што сляды злачынцаў прывялі да вёскі Зяньковічы. Незразумела, чаму не апытаны ні адзін з жыхароў вёскі, дзе практычна ўсе ведаюць, хто любіць «папаляваць».

Як сведчаць матэрыялы пракурорскіх праверак, крымінальныя справы гэтай катэгорыі ў многіх выпадках не раскрываюцца з-за істотных упушчэнняў у правядзенні аператыўна-следчых дзеянняў з боку міліцыі, недапрацовак егерскіх службаў.

Егерам Івянецкага лясніцтва В. Бубенам у Валожынскім лясгасе быў устаноўлены факт незаконнага адстрэлу дзікага кабана. Там жа знаходзіліся пяцёра паляўнічых, якія адмовіліся прад'яўляць дакументы.

Адышоўшы ад паляўнічых, егер у кіламетры ад іх выявіў дзве аўтамашыны маркі «Масквіч» і «УАЗ». У ходзе следства ўстаноўлены ўладальнікі гэтых аўтамашын, якімі аказаліся работнікі праваахоўных органаў. Аднак па незразумелых прычынах гэтыя ўладальнікі Бубену для апазнання прад'яўлены не былі. А раптам пазнаў бы...

Браканьерства сёння набыло такі размах, што яно становіцца сацыяльна небяспечнай з'явай. А тым больш, калі ў гэтай справе ўдзельнічаюць самі «законнікі», тыя, хто па абавязку службы павінен ахаваць усенароднае дабро.

**Аляксандр ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора, старшы саветнік юстыцыі.**

# КІРМАШ



**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 20 (39)**

## «БІЗНЕС-БЕЛАРУСЬ-96» — гэта КАЛЯ 1000 СТАРОНАК КАРЫСНАЙ ІНФАРМАЦЫІ




**Прэзентацыя другога выдання тэлефоннага рэспубліканскага даведніка «Бізнес-Беларусь» днямі адбылася ў Міжнародным адукацыйным цэнтры. Свой прадукт прадстаўляла сумеснае беларуска-шведскае прадпрыемства «Белфакта».**

Першы падобны даведнік СП выдала ў мінулым годзе. І ён хутка разышоўся. Асаблівым поспехам даведнік карыстаўся сярод бізнесменаў, менеджэраў прадпрыемстваў розных формаў уласнасці, камерцыйных структур, пачынаючых прадпрымальнікаў. Набывалі яго не толькі дзелавыя, а, скажам так, звычайныя людзі.

Усіх іх зацікавіла велізарная колькасць разнастайнай дзелавой, і ўвогуле карыснай інфармацыі ў гэтай тоўстай (амаль у тысячу старонак) кнізе. Нягледзячы на яе ўнушальны аб'ём, знайсці патрэбную даведку даволі проста дзякуючы прадуманай структуры даведніка.

Рабіўся даведнік па ноу-хау, прадстаўленаму шведскім бокам. Дарэчы, і надрукаваны ён у Швецыі.

«Белфакта» мае намер працаваць і пашыраць выданне даведачнай літаратуры. На чарзе — выпуск даведніка па Мінску і Мінскай вобласці. Восенню пачнецца вялікая работа па збору інфармацыі і рэкламы ў «Бізнес-навігатар-97», які будзе ўтрымліваць важныя даныя аб Беларусі, Расіі, Украіне, Эстоніі, Латвіі, Літве і Фінляндыі.

**Леанід ТУГАРЫН.**

## МЕДЫЦЫНА XXI СТАГОДДЗЯ,
### або Што такое PIOKAL?

**PIOKAL (ПІОКАЛ) — гэта новая простая і надзейная тэхналогія лекавай дапамогі пры цяжкіх хранічных захворваннях, калі неабходна комплексна адрэгуляваць стан арганізма. Гэта лячэнне і дыягностыка арганізма ў адным кавалачку матэрыялу, прыкладзенага да ступні. Цэнтральным звяном новай тэхналогіі з'яўляюцца біяэнергатэрмічныя ўкладышы для ног PIOKAL, якія зроблены з мяккага эластычнага матэрыялу спецыяльнай формы, якасці і валодаюць экранізуючай уласцівасцю для рэцэптараў ступняў, закладваюцца ў абутак (або ў іх спяць). Тэхналогія ўключае строгае выкананне правілаў карыстання ўкладышамі, разуменне зваротных працэсаў у арганізме, веды ўрача, які ўмее комплексна бачыць праблемы хворага.**

З самым папулярным экранам мы сутыкаемся кожны дзень — гэта люстэрка, якое некалі было дарагой прывілеяй каралёў, паненак, паноў. Знайшоўся ў свеце чалавек, які вынайшаў «люстэрка» для рэцэптараў ступняў. Праз 1—10 хвілін у ступнях адчуваецца прыемнае цяпло — эфект экранізуючага ўздзеяння. З гэтай хвіліны пачынаецца дыягностыка і рэабілітацыя. Па карце зон ступні можна вызначыць хворы орган. У каго што баліць, той тое і адлюстроўвае, тое і лечыць. У аднаго — праблемы з сэрцам, у другога — са страўнікам, сном, суставы, болі, у тым ліку болі душы — у кожнага лячэнне ідзе індывідуальна, незалежна ад узросту. Убачыўшы сябе як у люстэрку, арганізм прапіша сабе лячэнне значна больш мудрае, чым усе нашы суб'ектыўныя метады і падыходы да яго. Нагам цёпла, адтае душа, супакойваецца нервовая сістэма, вяртаюцца сілы, а ў многіх — страчанае здароўе і надзея. Адбываецца комплексная самарэгуляцыя ўсіх сістэм арганізма. Лепш за ўсё пачынаць насіць укладышы PIOKAL летам, у час санаторна-курортнага лячэння, і рэгуляваць энергетыку арганізма, аслабленую і незбалансаваную практычна ў кожнага. Любая хвароба — гэта заўсёды незбалансаваная энергетыка арганізма, правесці карэкцыю якой няма чым. Укладышы дапамагаюць гэта зрабіць не пабочнымі сіламі, а сіламі самога арганізма.

Добрых водгукаў вельмі многа. Захворванні, з якімі звяртаюцца пацыенты для лячэння ўкладышамі PIOKAL, ахопліваюць шырокі спектр праблем у арганізме: 8 працэнтаў — хваробы органаў дыхання, 6 працэнтаў — стрававання, 6 працэнтаў — нырак, 35 працэнтаў — сардэчна-сасудзістыя, 1 працэнт — печані, 1 працэнт — хваробы крыві, 5 працэнтаў — рэўматоідныя захворванні, 18 працэнтаў — сустаўныя, 5 працэнтаў — хваробы залоз унутранай сакрэцыі, 5 працэнтаў — вегета-сасудзістыя, 1 працэнт — посттраўматычныя, 2 працэнты — пухлінныя, 1 працэнт — рознае. Раім звярнуць увагу хворых дзяцей з захворваннямі мочапалавой сістэмы, шчытападобнай залозы, заіканнямі, запаволеным развіццём, начным энурэзам, нестабільнай нервовай сістэмай, эпілепсіяй.

Тэхналогія PIOKAL простая, можа доўга, гадамі прымяняцца хворым дома і ў стацыянары, служыць у многіх выпадках самастойным спосабам лячэння, у іншых — цудоўным фонам пры комплексным лячэнні, сумяшчальная з прыёмам лекаў, неабходнасць у якіх рэзка змяншаецца. Высокая эфектыўнасць пры штодзённым нашэнні ўкладышаў адзначаецца на працягу 3-4 месяцаў. Затым, пры хранічных захворваннях, лячэнне працягваюць новымі ўкладышамі, старыя перакладваюць у абутак і даношваюць, таму што яны фізічна зношваюцца. Праціпаказаннем з'яўляецца толькі наяўнасць камянёў у арганізме звыш 7-8 мм. Камяні меншага памеру выводзяцца з арганізма без праблем і пры нашэнні ўкладышаў не ўтвараюцца.

Тэхналогія PIOKAL і яе аснова — укладышы PIOKAL — не маюць аналага ў свеце. Іх вынайшаў адзіны чалавек у свеце, які выратаваў свае ногі ад ампутацыі і дапамог пазбавіцца ад хвароб мільёнам людзей — Казімеж Піатровіч. У чэрвені выходзіць кніга К. Піатровіча «Лячэнне аднаўленнем інфармацыі», у якой будуць прыведзены сотні прыкладаў лячэння людзей з дапамогай тэхналогіі PIOKAL. Яе можна будзе набыць у цэнтры.

Прадстаўніком PIOKAL у Беларусі з'яўляецца аздараўленчы навукова-практычны цэнтр «АГНІЯ» (Мінск-12, Сурганава, 2, пакой 3а, тэл. 232-44-02; 265-09-06), дзе хворыя кансультуюцца ўрачамі, якія валодаюць тэхналогіяй PIOKAL, інвалідам і дзецям робіцца скідка 30 працэнтаў. Іншагароднім магчыма перасылка, для чаго на цэнтр «АГНІЯ» неабходна прыслаць пісьмо з указаннем захворванняў. Мы вышлем умовы перасылкі. Зваротны канверт абавязковы. Укладышы PIOKAL можна набыць у магазінах «Оптыка» Мінска.



## МАЭСТРА ПЕРАГАВОРАЎ, АБО ЯК АВАЛОДАЦЬ МАЙСТЭРСТВАМ ДЫРЫЖЫРАВАННЯ ХОРАМ АПАНЕНТАЎ

Большасць з нас напэўна лічыць, што ўменне весці перагаворы неабходна выключна дзяржаўным дзеячам, дыпламатам і іншым чыноўнікам высокага рангу. Не называць жа, на самай справе, перагаворамі кухонную «разборку» з жонкай!..

«А чаму б і не?» — пярэчыць аўтарытэтны спецыяліст у гэтай галіне, дырэктар амерыканскага інстытута перагавораў Джэрард Нірэнберг у сваёй кнізе «Маэстра перагавораў». На яго думку, да перагаворнага «жанру» можна смела аднесці любое высвятленне адносінаў паміж людзьмі, пакуль справа не дайшла да рукапрыкладства або, яшчэ горш, узброенага канфлікту. Больш таго, аўтар кнігі ўпэўнены, што яго тэорыя дасягнення кампрамісу здольна пазбавіць свет ад войнаў, не гаворачы ўжо пра рознагалоссі мясцовага маштабу.

З апошніх Джэрард Нірэнберг асабліва выдзяляе канфлікты на глебе дзелавых узаемаадносінаў, наладжванню якіх і прысвечана гэта кніга.

«У выніку паспяховых перагавораў выйграюць усе», — сцвярджае аўтар. І самым падрабязным чынам апісвае шлях да дасягнення гэтай мэты. Мы даведваемся, як рыхтавацца да сустрэчы з апанентам, як правільна фармуляваць пытанні і адказваць на іх, як «расшыфроўваць» мову мімікі і жэстаў...

У раздзеле «Майстэрства задаваць пытанні» прыводзіцца выпадак, калі няправільна растлумачанае пытанне каштавала чалавеку жыцця. Гэты армейскі капітан быў казначэем афіцэрскага клуба і час ад часу запускаў руку ў агульную касу. Аднойчы ў гарнізоннай лаўцы да яго падышлі два паліцэйскія. Адзін з іх паклаў руку на плячо афіцэра: «Капітан, вы не маглі б прайсці з намі?» — «Прашу прабачэння, — сказаў той, — я зараз»... Ён выйшаў у мужчынскі туалет і застрэліўся.

Паліцэйскія былі ўзрушаны: яны ўсяго хацелі сказаць, што капітан прыпаркаваў свой «джып» не ў тым месцы.

«Гэты чалавек і сёння быў бы жывы, — рэзюміруе аўтар, — калі б непрадузята ўспрыняў звернутае да яго пытанне».

Такія памылкі, вядома, не заўсёды прыводзяць да трагічнага зыходу, але могуць дорага каштаваць не толькі ў пераносным сэнсе. У дзелавых жа перагаворах, як правіла, адстойваюцца чыесьці матэрыяльныя інтарэсы, якія нярэдка выражаюцца ў салідных сумах. І існуе дэталёва распрацаваная тэхналогія гэтага працэсу, асвоіўшы якую, можна смела садзіцца за стол перагавораў.

Дарэчы, рэкамендацыі Джэрарда Нірэнберга спатрэбяцца і тым, хто не збіраецца стаць прафесіянальным «маэстра перагавораў». Гэтыя парады эфектыўныя і на бытавым узроўні.

Набыць чарговую навінку серыі «Поле цудаў», якая выпускаецца выдавецтвам «Парадокс», можна ў кніжных магазінах рэспублікі.

## ПРЫВАТНЫЯ АБ`ЯВЫ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтамабіль ЗІЛ-130 пераабсталяваны пад дызель, танна
  *тэл. у Камянцы 2-16-16.*
- матацыкл мінскі, новы халадзільнік «Крышталь» у Докшыцах
  *тэл. (8-257) 24-3-35.*
- дом з гаспадарчымі пабудовамі за 2 км ад станцыі Баяры ў зоне паляўнічага запаведніка
  *тэл. у Маладзечне 5-49-39.*
- кран КС-3575А на ЗІЛ-133, б/к, экскаватар ЭО-2621, б/к
  *тэл. (8-01592) 2-21-34 пасля 15.00.*
- савецкія манеты
  *адрас: 211724, Віцебская вобл., Докшыцкі раён, в. С. Гняздзілава. Буюк В. Н.*
- дом з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Завароты Глыбоцкага раёна. Звяртацца: *Гарадзішча Докшыцкага раёна. Янковіч Я.*
- вялікі дом на ўскраіне вёскі ў прыгарадзе г. Жлобіна (ад чыгункі 1,5 км), маецца тэлефон, газ, гаспадарчыя пабудовы. Кошт — 5.200$
  *тэл. (0232) 51-11-54.*
- дом 67 кв. м, з гаспадарчымі пабудовамі, гаражом, з усімі выгодамі
  *г. Рагачоў, вул. Тэльмана, 52.*
  *тэл. (8-239) 2-29-12.*
- новы дом з мансардай у Івянцы (60 км ад Мінска) без унутраных работ
  *тэл. (8-293) 34-4-52, вечарам.*
- памперсы (Германія) *тэл. 220-69-66.*
- драўляны дом у в. Братняя Гара Браслаўскага раёна. *Звяртацца да Вялічка І. 211983, Віцебская вобл., Браслаўскі раён, в. Анісімавічы.*
- піламатэрыялы н/а, плінтус, налічнікі
  *тэл. 252-85-56.*
- драўляны дом у райцэнтры Узда. Ёсць тэлефон, газаацяпленне, сад 10 сотак — за 4.000$
  *тэл. (8-218) 55-7-05.*
- крэслы паўмяккія з глядзельнай залы па цане 320.000 руб. г. Маладзечна, Прытыцкага, 17
  *тэл. (8-273) 71-4-52.*
- новы 2-этажны драўляны дом для дачы 4,5х5,5 з неабходнымі матэрыяламі — 1300$
  *тэл. у Калінкавіцкім раёне: 60-2-71.*
- дом у вёсцы з гаспадарчымі пабудовамі на ўчастку 0,32 га, за 3 км ад возера Нарач, Мядзельскі раён *тэл. (8-297) 56-1-38.*

### РОЗНАЕ

- мяняю 2 пакаёвую кватэру ў Ганцавічах на раўназначную ў Брэсце альбо Камянцы
  *тэл. у Камянцы: 2-16-16.*
- шукаю добрага гаспадара пудзеля — сімпатычнай ласкавай шасцімесячнай сучкі
  *тэл. у Мінску: 66-42-44 пасля 20.00.*
- збіраю незвычайную інфармацыю, якая знаходзіцца па-за Вашым разуменнем. За цікавае — растлумачу. Пісьмы з канвертам накіроўваць: *Мінская вобл., Стаўбцоўскі раён, Мікалаеўшчына, Школьная, 41. Аляксандру.*

## ЗАПАВЕДЗЬ ЛЮБОВІ

**Аднойчы Ісус Хрыстос сказаў тым, што слухалі Яго: «Гэта запаведзь Мая: Любіце адзін аднаго, як і я палюбіў вас. Няма любові, большае за тую, як калі хто аддасць душу сваю за сяброў сваіх» (Евангелле Яна 15:12,13).**

Бог любіць людзей, і Ён хоча, каб ніводзін грэшнік не загінуў. І гэтую любоў Бог выявіў у Ісусе Хрысце. Ісус Хрыстос аддаў Сваё жыццё за ўсіх людзей. Ён узяў пакаранне за грахі ўсіх людзей на Сябе. Хрыстос памёр за грахі нашы і ўваскрос для апраўдання нашага. Калі чалавек верай прыме гэтую простую ісціну, паверыць у Ісуса Хрыста і пакаецца (вось кароткая малітва: «Ойча Нябесны! Прабач мае грахі, дай жыццё ў Царстве Тваім Нябесным, прашу ў імя Ісуса Хрыста. Амінь»), то ачысціцца ад грахоў і выратуе сваю душу ад пекла.

Любоў Ісуса Хрыста — найбольшая: Ён аддаў душу Сваю не толькі за сяброў, але і за ворагаў.

**Андрусь ДЫЛЮК**

# Віктар ІПАЦЬЕЎ: «Свет прызнаў — беларуская лясная навука знаходзіцца сёння на перадавых пазіцыях. І гэта — наша перамога»



***Інстытут лесу Акадэміі навук Беларусі, які знаходзіцца ў Гомелі, з'яўляецца адзіным спецыялізаваным у рэспубліцы і старэйшым навукова-даследчым інстытутам па лесу ў былым Саюзе. У апошні гады, нягледзячы на работу яго ў складаных умовах, калектыў не толькі не страціў свае кадры і навуковыя школы, але ў 2,5 раза павялічыў аб'ём навуковых даследаванняў, развіў шэраг новых напрамкаў дзейнасці. Сёння распрацоўкі інстытута знайшлі прызнанне і вялікую цікавасць у краінах як блізкага, так і далёкага замежжа, таму ў Гомель нярэдка прыязджаюць іх прадстаўнікі, каб абмяняцца сваімі думкамі па лясных пытаннях і павучыцца ў беларускіх вучоных, пракансультавацца з імі. Нярэдка гамяльчане і самі выязджаюць за мяжу з навуковымі дакладамі, якія зараз успрымаюцца там прыязна, а раней сустракалі пэўнае неўразуменне, бо ішлі ўразрэз з прынятымі міжнароднымі думкамі па такой важнейшай праблеме, як уздзеянне радыяцыі на лес. Толькі летась яны пабывалі ў Англіі, Аўстрыі, Венгрыі, Германіі, Партугаліі, Швецыі, Фінляндыі і іншых краінах.***

***У 1989 годзе інстытут узначаліў саракасямігадовы доктар сельскагаспадарчых навук, член-карэспандэнт АН Беларусі Віктар Іпацьеў, аўтар ста пяцідзесяці навуковых прац (у тым ліку пяці манаграфій. Летась ён стаў акадэмікам Расійскай акадэміі сельскагаспадарчых навук, а сёлета на конкурснай аснове выбраны экспертам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па лесу ад усходнееўрапейскіх краін і ў сакавіку ўдзельнічаў у міжнароднай нарадзе ў Жэневе па актуальных пытаннях развіцця лесаводства і прыродакарыстання. З ім і гутарыць наш карэспандэнт.***

**— ВІКТАР АЛЯКСАНДРАВІЧ, пералік вашых вучоных званняў гаворыць сам за сябе: вы — прызнаны аўтарытэту лясной навуцы. А вось з чаго ўсё пачыналася, як вы ішлі да кар'еры вучонага?**

— У навуку рэдка хто прыходзіць спецыяльна. Тут часта рашаючую ролю адыгрывае выпадак. І ў маім лёсе гэта было не на апошнім месцы. З аднаго боку, перад вачамі ў мяне быў добры прыклад: бацька — вядомы вучоны-селекцыянер, маці — батанік, працавалі ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, куды я і паступіў пасля заканчэння школы на гідрамеліярацыйны факультэт. Правучыўся там два гады і супраць волі бацькоў перавёўся ў сталіцу Беларусі ў лесатэхнічны інстытут. І вось шчаслівы выпадак: ужо са студэнцкіх гадоў я трапіў, як гаворыцца, у добрыя рукі акадэміка Паўла Пракоф'евіча Рагавога (ён, дарэчы, ураджэнец Гомельшчыны), у навуковым гуртку якога займаўся. Потым былі служба ў арміі, работа ў лесаўпарадкавальных экспедыцыях у Сібіры і на Крайняй Поўначы. У час водпуску наведаўся ў інстытут, і Павел Пракоф'евіч рашуча заявіў мне: досыць гуляць, час ужо брацца за сур'ёзную справу. Якую, пытаю я. Паступаць у аспірантуру, бо ты ўжо не хлопчык, а я — не малады. І колькі я ні прасіў яго даць мне адтэрміноўку хаця б на год, Павел Пракоф'евіч на гэта не згадзіўся, настаяў на сваім.

— У гэтым, відавочна, праявіліся яго выдатныя якасці: заўважаць таленты, развіваць іх і дапамагаць ім. Дык вось, калі я паступіў у аспірантуру, ён замацаваў за мной свайго лепшага вучня — дацэнта Івана Кірылавіча Блінцова, які і накіроўваў маю дзейнасць. Я адзін з нямногіх аспірантаў, якія дысертацыю напісалі і абаранілі ў тэрмін.

А калі абараніўся і стаў прафесарам, навукай захацеў заняцца ўшчыльную. І мне нечакана прапанавалі (а было гэта ў 1988 годзе) тры месцы работы на выбар — Масква, Ленінград, Свярдлоўск. Я выбраў апошні горад, дзе паспяхова прайшоў па конкурсу і дзе пад мяне стваралася лабараторыя воднага рэжыму і лясных фітарозных рэгіёнаў краіны. Калі вярнуўся ў Мінск для канчатковага разліку, мяне нечакана выклікалі ў Маскву ў Дзяржкамітэт па лесу, і міністр, акадэмік Аляксандр Сяргеевіч Ісаеў, раптам прапанаваў ўзначаліць інстытут лесу ў Гомелі. Я пачаў адмаўляцца.

**— Маўляў, радыяцыя, а я ж — не стары яшчэ. А вам у адказ: едзь — партыя загадвае! Ці так было, Віктар Аляксандравіч?**

— Ды не, зусім не так. Ніякага цвёрдага загаду не было. І Чарнобыль мяне не бянтэжыў, бо і там, у Свярдлоўску, побач — Белаярская атамная станцыя, і вядомы ўральскі кыштымскі ўзрыў «мірнага» атама быў. Проста, калі гаварыць шчыра, не хацелася мне дырэктарам быць ва ўстанове, дзе ў той час паміж групоўкамі вучоных вяліся своеасаблівыя лакальныя «войны», адкуль рассылаліся ананімкі ў самыя высокія інстанцыі.

**— Але ж, нягледзячы на гэта, вы далі згоду ўзначаліць інстытут...**

— Даў.

— Прынялі мяне ў горадзе над Сожам сапраўды нядрэнна. Кіраўнікі вобласці паабяцалі падтрымку ў рабоце, калі яна спатрэбіцца. А калектыў інстытута на альтэрнатыўнай аснове (было тры кандыдаты) абраў мяне дырэктарам, і праз два гады ўжо ніхто з яго супрацоўнікаў ананімкі і скаргі нікуды не пісаў. Не ўтойваю: мясцовыя ўлады (а так яно і павінна быць) у баку ад большасці праблем калектыву на першым часе не заставаліся, астатняе ж было за намі.

**— Такім чынам, Віктар Аляксандравіч, вы ўзначалілі Беларускі навукова-даследчы інстытут лясной гаспадаркі (так тады называўся інстытут лесу), які апынуўся ў ста дваццаці кіламетрах ад ядзернага рэактара, што выпусціў са свайго нутра страшэннага — джына. І перад вашым калектывам, безумоўна, паўстала задача вельмі адказная і складаная: стаць фарпостам навуковых даследаванняў па радыеэкалогіі лесу. З чаго пачыналі? Чаго дасягнулі?**

— Каб адказаць на гэтыя пытанні, неабходна прыгадаць наступнае. Калі ў цэлым планета Зямля пакрыта лясамі на дваццаць сем працэнтаў, дык Беларусь — на трыццаць чатыры. І ніводная дзяржава свету не адчула на сабе такога буйнамаштабнага радыеактыўнага забруджвання іх, як наша рэспубліка. Тут кожны чацвёрты гектар (а гэта амаль два мільёны гектараў) пасыпаны чарнобыльскім попелам, у тым ліку больш як палова лясной плошчы Гомельшчыны.

Дык вось, ужо ў пачатку мая 1986 года Дзяржкамлесам СССР была створана навуковая група, якая правяла шэраг рэкагнасцыровачных работ па выяўленню радыяцыйнай абстаноўкі ў лясах вакол ЧАЭС. Ад БелНДІЛГа ў састаў яе быў уключаны кандыдат навук Іван Булавік, які ўзначаліў у інстытуце радыелагічнае падраздзяленне. Гэтай групай у саставе саюзнай былі распрацаваны першыя папярэднія рэкамендацыі па вядзенню лясной гаспадаркі ва ўмовах радыеактыўнага забруджвання і складзена праграма навуковых даследаванняў у забруджаных радыенуклідамі лясах Беларусі, Украіны і Расіі.

У інстытуце ў той час не было спецыяльнай навуковай лабараторыі і навуковых кадраў, якія б адпавядалі профілю такіх даследаванняў. Таму ўжо праз чатыры месяцы пасля аварыі на ЧАЭС быў створаны сектар радыебіялогіі лесу з некалькіх чалавек. Іх, сапраўды смелых і мужных людзей, хачу назваць пайменна: вышэйпамянёны Іван Булавік, прафесар Віктар Паджараў, кандыдат навук Леанід Навойчык, старшы інжынер і інжынер Вячаслаў Жукаў і Галіна Пашчанка, старшыя лабаранты Вольга Мельнікава і Святлана Мажэева.

У той час як насельніцтва эвакуіравалася з 30-кіламетровай зоны, яны выязджалі ў самыя небяспечныя месцы для правядзення назіранняў за ўплывам радыеактыўных выкідаў на лясныя экасістэмы, для чаго была набыта і асвоена неабходная апаратура, наладжаны кантакты з навуковымі ўстановамі Масквы, Кіева, Мінска і іншых гарадоў.

**— Вернемся да ранейшага пытання. Вы ўзначалілі інстытут і...**

— Адразу вызначыў для яго дзве праграмы — мінімум і максімум. А менавіта: усе даследаванні калектыву павярнуць на чарнобыльскую тэматыку і дабіцца таго, каб інстытут стаў інстытутам вышэйшай катэгорыі, якому было б дадзена права на абарону тут кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый. Забягаючы наперад, зазначу, што намечанае мы ўжо дасягнулі і працягваем працаваць далей. Дастаткова сказаць, што тэматыка радыяцыйных даследаванняў выйшла з рамак сектара лясной радыялогіі і арганічна ўпісалася ў праграмы практычна ўсіх лабараторый інстытута.

Пасля распаду Савецкага Саюза перад інстытутам паўстала праблема, у якой сістэме рэспублікі яму функцыянаваць, і з 1992 года ён стаў працаваць у сістэме Акадэміі навук. Мы правялі рэарганізацыю лабараторыі, запрасілі да сябе шэраг спецыялістаў-ядзершчыкаў, радыёлагаў і радыёхімікаў і выдзелілі чатыры асноўныя блокі даследаванняў, звязаных з Чарнобылем. Гэта дынаміка і характар міграцыі радыенуклідаў у лясных экасістэмах і прагноз іх размеркавання ў сістэме «Глеба - драўнінныя расліны»; генетычныя вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС і спецыфіка арганізацыі і вядзення лясной гаспадаркі на забруджаных землях; шляхі зніжэння негатыву чарнобыльскай катастрофы ў адносінах да лясных экасістэм і чалавека.

**— Я ведаю, што вынікі гэтых даследаванняў былі апублікаваны ў кнізе «Лес і Чарнобыль», якую інстытут выдаў у 1995 годзе.**

— Гэта так. Скажу, што падрыхтавана намі ўжо і другая кніга з нашымі навуковымі напрацоўкамі. Увагу ж хачу засяродзіць на наступным. Інстытуту давялося вытрымаць сапраўдны бой з навуковымі цэнтрамі былога СССР, Масквы і міжнароднымі арганізацыямі тыпу МАГАТЭ па такіх прынцыповых пытаннях, як лес і радыяцыя. Справа ў тым, што там сцвярджалі: беларускія лясы пачнуць ачышчацца гадоў праз дзесяць, як гэта мела месца на Урале ў час сумна вядомай кыштымскай аварыі. Мы ж на аснове даследаванняў, якія, паўтараю, вялі з самых першых дзён пасля чарнобыльскай трагедыі практычна на ўсёй тэрыторыі рэспублікі, і прычым у комплексе, заяўлялі іншае: лес не ачышчаецца, а, наадварот, забруджваецца радыенуклідамі. Гэта намі было сказана афіцыйна ўжо ў 1990 годзе, паўторана мною ў 1992 годзе ў Обнінску на міжнародным кангрэсе, а ў 1993 годзе — на такім жа кангрэсе ў Партугаліі. Даходзіла да таго, што ішлі на канфлікт са сваім былым міністрам, які не выдзеляў на такія даследаванні, як уздзеянне радыяцыі на работнікаў лесу ці тых, хто жыве там. Іх мы рабілі тайком, запрасіўшы для гэтай работы двух супрацоўнікаў з інстытута радыяцыйнай медыцыны.

Такую работу пачалі ў 1989 годзе і атрымалі вельмі цікавыя даныя па накапленню радыенуклідаў ляснымі спецыялістамі розных катэгорый. У прыватнасці, устанавілі, што яны апраменьваюцца ў тры—трынаццаць разоў больш, чым работнікі іншых спецыяльнасцей, якія пражываюць у тых жа населеных пунктах. У выніку гэтага былі распрацаваны санітарныя рэгламенты работ у забруджаных лясах працаўнікамі розных спецыяльнасцей. Гэтыя нашы высновы, якія раней успрымаліся кімнікім ледзь не ў штыкі, поўнасцю, але толькі летась, пацвердзілі і расійскія вучоныя.

**— Гэта і ёсць той прыклад непрымання вашага пункту гледжання на выніке ўздзеяння чарнобыльскай радыяцыі на лес навуковымі цэнтрамі?**

— На жаль, ён не адзіны, гэты прыклад, бо яшчэ давялося даказваць, што ў рэспубліцы забруджаны кожны чацвёрты гектар лесу што ён прыняў на сябе ў першыя дні пасля аварыі ў Чарнобылі асноўны ўдар радыяцыі, бо да васьмідзесяці працэнтаў яе затрымаў у сваіх кронах і такім чынам у вялікай ступені блакіраваў распаўзанне радыенуклідаў па населеных пунктах і сельскагаспадарчых угоддзях. Калі б лес не з'явіўся на шляху гэтых радыенуклідаў моцным бар'ерам, апошнія наглыталіся б радыяцыі куды больш. Вядома ж, ён ад гэтага вельмі пацярпеў, аб чым сведчыць праведзены намі комплекс даследаванняў.

Так, напрыклад, мы прыйшлі да высновы, што насенне дрэў хвойных парод, узятае з тэрыторый вялікай шчыльнасці радыеактыўнага забруджвання, дае моцна аслабленыя дрэўцы, якія часцей, чым звычайныя, схільныя да грыбковых ці іншых захворванняў. У іхнім генетычным апараце нават пры невялікай шчыльнасці забруджвання (40 кі/ кв. м) частата мутацый удвая большая, чым на чыстых тэрыторыях.

Істотныя змены назіраюцца ў колькасных і якасных характарыстыках папуляцый некаторых шкоднікаў лесу. Так, сярод вусеняў з прыгожай і густой афарбоўкай — няпарнага шаўкапрада — праўда, не ў масавым парадку, але і не адзінкава, сустракаюцца цяпер абсалютна лысыя экземпляры, якія ўзнавіць паўнацэннае патомства не ў стане. А майскія хрушчы ў радыеактыўных лясах змяняюцца і па вазе, і нават па форме.

Усё гэта і іншае нам і даводзілася даказваць, як і тое, што нельга садзіць лес на тых 260 тысячах гектарах, якія на доўгія-доўгія часы выйшлі з сельгасабароту, бо яны хутчэй ачысцяцца самі, без лясоў.

Мы здолелі пераадолець памылковую сусветную думку ўздзеяння радыяцыі на лес. Зараз у праграмах Камітэта еўрапейскага супольніцтва як базавая прынята наша канцэпцыя.

**— Віктар Аляксандравіч, а адкуль у вас вось гэты дыплом міжнароднага пажарніка?**

— Гэта цікавае пытанне. Чарнобыльская тэматыка інстытута не замыкаецца толькі на даследаваннях уплыву радыяцыі на лес. Калі распаўся Савецкі Саюз, у нас не стала арганізацыі, якая б займалася лесатушэннем, а лясы ж — чарнобыльскія. Паводле даных маскоўскіх вучоных, у час лясных пажараў канцэнтрацыя радыенуклідаў у паветры павялічваецца ў дзвесце разоў. Створаная ў нашым інстытуце навуковая група распрацавала унікальны састаў, які практычна поўнасцю блакіруе агонь у лесе і адначасова мае меліярантныя ўласцівасці. Аналагаў яму ў свеце няма. Дык вось, гады два назад да нас прыязджалі намеснік міністра лясной гаспадаркі Канады і начальнік пажарнай службы ЗША. Яны здзівіліся, што наш раствор, праляжаўшы каля месяца ў лесе, не страціў сваіх вогнетушыльных уласцівасцей, у той час як іхні меў гэтыя ўласцівасці толькі трое сутак. Прычым і цана нашага (дарэчы, ён выпускаецца на Гомельскім хімзаводзе) куды ніжэйшая, чым амерыканскага. Праз нейкі час з Амерыкі і прыслалі мне гэты дыплом, і ўжо два гады адтуль бясплатна паступае нам часопіс па пажарнай справе, кожны нумар якога каштуе трыста долараў.

**— Мяркую, у вас маюцца і іншыя «ноу-хау»?**

— Ёсць, ёсць яны. Адны — запатэнтаваныя ўжо, другія — яшчэ не. Напрыклад, упершыню ў сусветнай навуцы і лясной практыцы мы можам рэгуляваць паступленне радыеактыўных рэчываў з глебы ў драўнінныя расліны.

**— Што гэта азначае?**

— Ды тое, што мы ў нашай рэспубліцы маем рэальную магчымасць вырошчваць больш чыстую драўніну ва ўмовах радыеактыўнага забруджвання, што дае ключ да абсалютна новага лесаводства на землях, пакрытых ядзерным попелам.

**— Гамяльчанам добра вядома, што інстытут мае навуковыя напрацоўкі і ў вывядзенні радыенуклідаў з арганізма чалавека, умацаванні здароўя людзей...**

— У гэтай справе мы распрацоўваем тэхналогіі, даступныя кожнаму чалавеку. Сістэм тут дзве — антыракавая і нуклідавыводная. Інстытут асвоіў прамысловую тэхналогію ўкаранення ў вытворчасць прамысловага спосабу вырошчвання грыба вешанкі, які распаўсюдзіўся па ўсёй рэспубліцы, і гэтага грыба ўжо вырашчана, у тым ліку і на дачах, тысячы тон.

Спадзяёмся, што тое ж самае ў перспектыве будзе і са славутым японскім грыбам сіітаке, які ўпершыню сярод краін СНД мы навучыліся вырошчваць ва ўмовах Беларусі. Прэпараты з яго ў 98 выпадках са ста цалкам блакіруюць ракавыя пухліны, валодаючы, да таго ж, і антыспідознымі ўласцівасцямі. Шкада толькі, што ў рэспубліцы доўгі час не маглі знайсці нейкіх пяцьдзесят мільёнаў рублёў, каб зрабіць яго санітарна-гігіенічны аналіз — ні ў Міністэрстве аховы здароўя, ні ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях. Гэты грыб мы пачалі вырошчваць у аб'яднанні «Карал».

Ускладаем надзеі і на не менш знакаміты кітайскі чорны грыб, які фільтруе кроў і ачышчае яе ад радыенуклідаў. Яго таксама можна вырошчваць прамысловым спосабам і ў адкрытым грунце. Я звяртаўся да ўрада Кебіча, каб стварыць у рэспубліцы новую галіну — прамысловае грыбаводства, што дало б нашаму чалавеку вельмі многае. Скажам, у Чачэрскім і Нараўлянскім раёнах восемдзесят працэнтаў залішняй дозы радыяцыі ў сельскага насельніцтва фарміруецца за кошт спажывання грыбоў, якія збіраюцца ў лясах. Некаторыя абяцанні ўрада былі, аднак воз, як кажуць, і зараз там.

Супрацоўнікі інстытута ўкараняюць у вытворчасць і тэхналогіі вырошчвання нуклідавыводных сартоў ягад, распрацаваныя імі ж. Сур'ёзным бар'ерам у накапленні радыенуклідаў раслінамі з'яўляецца і суперводаадсарбент, які мы зараз выпрабоўваем на доследных палях. Але ва ўсіх гэтых работах у нас вялікія цяжкасці, і тут патрэбна дапамога як мясцовых органаў улады, так і рэспубліканскіх. Нас, напрыклад, вельмі хвалююць многія праблемы, якія не вырашаюцца на дзяржаўным узроўні. І справа тут не столькі ў недастатковай зарплаце вучоных, колькі ў адсутнасці вельмі патрэбнай для рэспублікі кафедры глебазнаўства ў тэхналагічным інстытуце, падрыхтоўцы маладых кадраў для навукі. Мы, вучоныя, пакутуем таксама ад так званага інфармацыйнага голаду. Маю на ўвазе неабходнасць у больш шырокім удзеле ў міжнародных сімпозіумах, выпісванні міжнародных навуковых часопісаў (вышэйпамянёны па пажарнай справе мы самі не маглі б выпісаць з-за сваёй фінансавай беднасці), абмен спецыялістамі і г. д. Я ўжо маўчу пра транспарт, які мы ўжо пяць гадоў не атрымліваем, рэактывы, прыборы, абсталяванне, спецадзенне і г. д. Праблем, адным словам, процьма, і калі не зменяцца адносіны да навукі — будзе бяда.

**— Відавочна, аднойчы вам абрыдла пераадольваць іх і вы, Віктар Аляксандравіч, вырашылі пакінуць Гомель?**

— Што вы маеце на ўвазе?

**— Ды тое, што летась вам паступіла прапанова ўзначаліць інстытут лесу ў Санкт-Пецярбургу.**

— Такая прапанова сапраўды была. Заманлівая прапанова. Па некалькіх прычынах. Ленінградскі навукова-даследчы інстытут лясной гаспадаркі — самы буйны лясны інстытут у свеце, і, разумееце, поле дзейнасці там для вучонага вельмі шырокае. Гэта па-першае. Па-другое. Мне ўжо там у прэстыжным месцы, у цэнтры горада, на Кіраўскім праспекце, купілі шыкоўную, за дзевяноста тысяч долараў, кватэру. І ўсё ж я, хаця паўгода і думаў аб пераездзе, вырашыў: застануся ў Беларусі. Не люблю гучных слоў, але зараз скажу: тут я буду патрэбен больш, тут я прынясу больш карысці.

**Гутарыў Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

### СЕМ ЧЫСТЫХ

# ДЖОРДЖ ОРУЭЛ. «1984»

Эрык Артур Блэр. Так звалі яго па-сапраўднаму. Ёсць версія псеўданіма. Джордж — святы, заступнік Англіі. Оруэл — рэчка недзе на поўначы краіны. І дакладна вядома наступнае: псеўданім Блэр узяў сабе па адной прычыне: яму вельмі не хацелася, каб бацькі ведалі, якім чынам ён збіраў матэрыял для сваёй першай кніжкі «Уніз і вон у Парыжы і Лондане». Справа ў тым, што факты Оруэл знаходзіў пад мастамі Сены і Тэмзы, сярод парыжскіх клашараў (аналаг нашых бамжоў), па сумніўных прытонах, карацей кажучы, на «дне».

І гэта так па-нашаму. Хоць Оруэл — чыстакроўны англічанін, народжаны, праўда, у Бамбеі, дзе служыў яго бацька.

Нармальны бацька. Ён лёгка прыняў умовы гульні. Магчыма, яны яму нават падабаліся: практычна ўсе даходы сям'і ішлі на падтрыманне прыстойнага іміджа.

Проста дзіўна, што такі бацька меў такога сына. Але супраць прыроды не папрэш. Яна сваё возьме...

* * *

У нас яго натуральна не ведалі. Былі закрытыя тыражы для тых, пра каго Оруэл пісаў. Гэта смешна, але таксама па-нашаму. Былі падпольныя перадрукоўкі на машынцы. Яны хадзілі па руках. За гэта маглі «прыцягнуць». Завесці справу.

Чалавек, які чытаў Оруэла, ужо не мог хадзіць на першамайскія, лістападаўскія і іншыя дэманстрацыі. Ён не мог моўчкі галасаваць «за». Хоць, можа быць, я і перабольшваю.

Упершыню ён быў надрукаваны, здаецца, у «Новом мире». Год не памятаю. Памятаю толькі адчуванне: бяздонная, прама касмічная туга. Праўда, у дадзеным выпадку вельмі эфектыўная. Я прайшоў надзейную вакцынацыю. Не толькі супраць камунізму. Супраць любой сістэмы падаўлення асобы. Як бы яе ні назваць.

* * *

Пісьменнік Р. Рыс успамінае: «Аднойчы ён прыйшоў да мяне дадому і папрасіў дазволу пераапрануцца. Пакінуўшы сваё прыстойнае адзенне ў мяне ў спальні, ён з'явіўся ледзь не ў лахманах. Яму хацелася, як ён растлумачыў, даведацца, як выглядае турма знутры; і ён спадзяваўся, што зможа гэтага дабіцца, калі будзе затрыманы».

У 5-6 гадоў Оруэл ужо ведаў, што будзе пісьменнікам. Пісаў вершы, нават паэмы ў стылі Арыстафана. Ну, мала хто не пісаў. Пісалі. Потым выраслі і станавіліся нармальнымі людзьмі. Інакш кажучы, тымі, якія прынялі правілы гульні. Іх, вядома, вінаваціць за гэта нельга. Нехта іранічна сказаў з гэтай нагоды: чалавек ёсць тое, што ён ёсць.

Оруэл быў горды. Даходы бацькі не далі магчымасці атрымаць адукацыю ў Ітане. Без гэтага нельга было думаць аб кар'еры чыноўніка. Але і тут не ўся праўда. Быў яшчэ дар Божы, жорсткі аналітычны розум, і амаль ненармальнае жаданне разабрацца ў сутнасці рэчаў.

Увогуле, як атрымліваецца пісьменнік? З драмы. Драмы адбываюцца з многімі, лічы, з усімі. Але ўсе — мірацца з лёсам, туманна здагадваючыся аб прычынах няўдач. Адзінкі — прысвячаюць сябе пошуку адказаў.

Оруэл быў з другой катэгорыі. Ён шукаў адказы. І знаходзіў...

* * *

Бадай, галоўная думка любога твора Оруэла — узаемаадносіны простага чалавека, «быдла», з уладай, з тымі, хто прапануе яму гарантаваны кавалак хлеба. Магчыма, нават з маслам.

Дзіўная рэч, ён спачуваў сацыялістычным ідэям. Гэта была не даніна модзе, якой захварэў Захад. Для Оруэла тут быў пошук справядлівасці. Але калі ён сустракаў жывога сацыяліста — характарыстыкі яго былі надзвычай іранічнымі і злымі.

Той жа Р. Рыс аднойчы расказаў Оруэлу пра сустрэчу з паэтам-камуністам. На што пачуў: «Бачыце, быць камуністам у тыя дні (20-я гады. — **С. Ш.**) не давала ніякай выгады: можна амаль беспамылкова сказаць, што тое, што не прыносіць выгады, правільнае».

Здаецца, проста, але ўдумацца — сэнс вельмі глыбокі. Можна сказаць, гэта ключ да ўсяго Оруэла. У яго была такая цікавая асаблівасць: бегчы ад «пераможцаў» да «пераможаных». Паўтару: правільна тое, што нявыгадна.

Ідэалізм? Натуральна. Чыстай вады. Гэта дрэнна? Для большасці — так. Большасць гаворыць: трэба прыстасоўвацца да абставінаў. Але ёсць іншыя, тыя, хто не змог прыстасавацца і хто па гэтай прычыне стаў звычайным угнаеннем. Ім гэта не падабаецца. Што рабіць з імі? Стварыць Міністэрства Праўды, дзе лгуць, Міністэрства Любві, дзе катуюць і забіваюць, Міністэрства Міру, дзе займаюцца вайной, Міністэрства Багацця, дзе размяркоўваюць талоны на прадукты.

Трэба таксама распрацаваць ідэалагічную праграму. Яна павінна быць простай і даходлівай. Дастаткова некалькіх лозунгаў. Напрыклад: вайна — гэта мір; свабода — гэта рабства; няведанне — гэта сіла.

Па-мойму, сапраўды дастаткова. А, патрэбен яшчэ Вялікі Брат. Вялікага Брата трэба самаахвярна любіць, пакланяцца яму. А калі вы яго не любіце, то ёсць Міністэрства Любві. Там вас навучаць любіць Вялікага Брата.

Уласна, гэта ў двух словах сюжэт рамана «1984».

Двухтомнік Оруэла зараз прадаецца ў «Кнігарні пісьменніка». Ужо паўгода, здаецца. Тыраж разыходзіцца марудна. Большасці хапае Міністэрства Праўды...

* * *

У «1984» ёсць эпізод. Герой рамана Уінстан Сміт ідзе ў кіно. Паказваюць ваенную хроніку. Дзесьці ў Міжземным моры бамбяць карабль з бежанцамі. Верталёт завісае над шлюпкай з дзецьмі. Кідае бомбу. Успышка. Выбух. Буйны кадр: уверх узлятае адарваная дзіцячая рука. У зале апладзіруюць і смяюцца.

Мне прыгадаліся кадры нашай хронікі 30-х гадоў. Мітынг. Плакаты. Шчаслівыя твары людзей. На плакатах лозунгі: «Смерць бандзе трацкісцкіх шпіёнаў!» На першым плане — твар жанчыны. Яна смяецца. Яна задаволена суровым прыгаворам здраднікам. Ці тым, што сама не трапіла ў іх лік?..

У рамане Уінстан здраджвае сваёй любімай Джуліі. Яна — яму. Іх прымушаюць. Уінстан адводзіць ад сябе клетку з пацукамі і крычыць: «Зрабіце гэта з Джуліяй! Толькі не са мной! Няхай крысы разгрызуць ёй твар, аб'ядуць яе да касцей... Толькі не са мной! З Джуліяй! Не са мной!»

Так гэта робіцца. Нам гэта знаёма? Жанчына, бацьку якой расстралялі ў Курапатах у 1939 годзе, расказвала вось што. Бацьку катавалі пяць месяцаў. Рабілі так: садзілі на ножку перавернутага табурэта і загадвалі так сядзець. Упадзеш — білі нагамі да страты прытомнасці. Ачуняў — усё спачатку. Тыя, каго арыштавалі з ім, падпісалі ўсё. Але іх расстралялі таксама. Толькі раней. Бацька той жанчыны пасвіў у калгасе жывёлу...

* * *

Оруэл думаў пра СССР, па сведчаннях, штодзень. Чытаў у перакладзе савецкія газеты. Зразумела, «1984» — гэта пра нас і для нас. Напісаны ў 1948 годзе, раман дайшоў якраз у пару. Справа ў тым, што назва нарадзілася даволі проста: Оруэл перавярнуў дзве апошнія лічбы года напісання рамана.

Оруэл думаў пра нас штодзень. Толькі пасвойму. Не так, як яго калегі накшталт Фейхтвангера ці Ралана, якія нават апраўдвалі расстрэлы. Яны лічылі — у гэтым ёсць неабходнасць. Для шчасця мільёнаў не страшна знішчыць некалькі соцень. Праўда, атрымалася — соцень тысяч толькі расстраляных і мільёны памёршых ад голаду ў лагеры ці не, на бяздарных войнах, і гэтак далей.

На Захадзе ўвогуле вельмі доўгі час былі папулярныя левыя ідэі. Оруэл не здрадзіў сабе і выказаўся дакладна: ім трэба ідэі адтуль (з СССР. — **С. Ш.**), а ежа — з Парыжа.

А увогуле такі стыль паводзінаў, ён інтэрнацыянальны. Тое ж і ў нас. Прыводзіць прыклады? Вы іх і самі ведаеце. Мноства з так званай інтэлігенцыі гатовы служыць любому. Ніхто з іх не перабяжыць у лагер «пераможаных». Не тое выхаванне. Гэта справа адзінак. Такіх, як Оруэл.

Яго доля была — плыць супраць цячэння. Колькі хопіць сіл.

* * *

А ці ёсць сэнс у такім жыцці? Мне здаецца, пытанне правамернае. Калі можна так сказаць, Джордж Оруэл быў заўсёды адзін супраць усіх.

У 1936 годзе ён быў у Іспаніі. Уступіў у атрады каталонскай міліцыі. Каталонцы нядрэнна ваявалі. Раптам яны аказаліся «няправільнымі». Інакш кажучы, трацкістамі. Пачаўся тэрор. Мноства добраахвотнікаў з розных краін былі вымушаны ўцякаць праз французскую мяжу. Уласна, гэта трэба было рабіць і Оруэлу. Тым не менш, ён застаўся яшчэ на месяц і дапамог вызваліць з турмы знаёмага. І ён напісаў аб усім гэтым праўду. У той час як «прагрэсіўная інтэлігенцыя асудзіла каталонцаў.

Хутчэй за ўсё, быў дадзены загад з Масквы, бо Троцкі быў ворагам Сталіна. І ўсе запелі ва унісон.

Дык ці ёсць сэнс у такім жыцці?

* * *

Неяк у вёсцы пісьменнік убачыў, як хлопчык гоніць па сцежцы каня. Калі конь спрабаваў збочыць са сцежкі, хлопчык сцёбаў яго лазінкай. Потым Оруэл пісаў: «Мяне ўразіла думка, што калі б жывёла ўсвядоміла сваю сілу, мы не змаглі б уладарыць над ёю, і што людзі эксплуатуюць жывёлу гэтак жа, як багацеі эксплуатуюць пралетарыят».

Сэнс метафары зразумелы? А хто не бачыў гэткай карціны? Але справа ў тым, што глядзяць усе, а бачаць — адзінкі...

* * *

Падчас другой сусветнай вайны Оруэл прасіўся на фронт. Яго не ўзялі: слабае здароўе і некалі перанесены туберкулёз. Ён стаў сяржантам мясцовай абароны. Служыў на Бі-бі-сі, пісаў артыкулы, ён быў бліскучым эсэістам. Пісаў таксама прозу. У сваім стылі.

На гэты раз Оруэл пісаў казку. Яна называецца «Двор для жывёлы». Многія лічаць яго найбольш удалым творам пісьменніка. Як заўсёды, казка носіць памфлетны характар.

Жывёла на сельскай ферме ўзбунтавалася і выгнала людзей. Сталі жыць, скажам так, камунай. Вольным, роўным і справядлівым грамадствам. Як мы ў 1917 годзе. Потым аказалася, больш роўнымі сталі свінні (я думаю, нездарма свінні...) Яны кіравалі тупаватай жывёлай, лепш елі і пілі і паступова сталі распараджацца нават жыццём падначаленых. Інакш кажучы, вырашалі каму жыць, каму паміраць.

Кажуць, у блакадным Ленінградзе, калі на вуліцах ляжалі трупы людзей і былі зафіксаваны выпадкі канібалізму, Жданаву спецыяльным самалётам вазілі нават ананасы. Кансерваваныя, праўда...

Два гады «Двор для жывёлы» адмаўляліся друкаваць і ў Англіі, і ў Амерыцы. Праўда зноў аказалася не своечасовай. Увогуле, яна неяк заўсёды не да часу.

У 1945 годзе памёрла жонка Оруэла Элін О'Шонесі. Пісьменнік арандаваў дом на Гебрыдскіх астравах і пераехаў туды з прыёмным сынам. Ён адышоў ад свету, ад прыстойнага грамадства.

Дабрацца на востраў Юра было вельмі складана. Уласна кажучы, зусім лагічнае завяршэнне зямнога шляху для чалавека, якога звалі Джорджам Оруэлам...

* * *

Дзіўны ўсё ж такі лёс. Гэты чалавек верыў: пакуль застанецца на зямлі хоць адна асоба, якая лічыць сябе асобай, таталітарызм не зможа перамагчы. Ён даказаў гэта сваім жыццём.

Дыялог з «1984». Функцыянер О'Браен размаўляе з Уінстанам:

« — Што ж гэта за дух, які знішчыць нас?

— Не ведаю. Дух чалавека».

Проста дух. Проста чалавека. Але — Чалавека.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## СТАГОДДЗЕ ВЯЛІКАГА АРТЫСТА

**30 мая 1896 года ў Рагачове ў сям'і, як бы сёння сказалі, ваеннаслужачага Мікалая Саннікава нарадзіўся сын, якога назвалі Косцікам. Роўна праз 100 гадоў, у мінулы чацвер, у Беларускую акадэмію мастацтваў прыйшлі сваякі, сябры, вучні, знаёмыя, студэнты, каб ушанаваць памяць вялікага артыста Канстанціна Мікалаевіча Саннікава.**

У свой час, успаміналі прысутныя, Канстанцін Мікалаевіч не без гонару жартаваў, што, маўляў, з яго пачаўся беларускі тэатр. Бо ён сказаў першую рэпліку прэм'еры першага спектакля «Рысь» Беларускага дзяржаўнага тэатра.

Жарты жартамі, але сапраўды Саннікаў стаяў ля вытокаў беларускага тэатральнага мастацтва. Ён, без перабольшання, адзін са стваральнікаў школы тэатра імя Янкі Купалы. І таму не выпадкова шмат купалаўцаў — яго выхаванцаў, сабралася пазаўчора ў малой зале Акадэміі мастацтваў.

Стафанія Міхайлаўна Станюта, жывая легенда беларускага мастацтва, прыгадала, што ў Саннікава вельмі цяжка было не закахацца — настолькі ён быў прыгожым мужчынам.

Вабіла людзей да Саннікава не толькі знешняя, але і ўнутраная прыгажосць, сардэчная і душэўная шчырасць. Тыя, хто добра ведаў Канстанціна Мікалаевіча, адзначалі яго дзіўную здольнасць адкрываць таленты. Сярод яго вучняў — дзесяткі вядомых артыстаў, ушанаваныя высокімі званнямі і ўзнагародамі.

Асабліва вылучалі прамоўцы надзвычай важную ўвогуле для беларускага мастацтва працу Саннікава з нашымі славутымі драматургамі Крапівой, Макаёнкам, Губарэвічам, Самуйлёнкам і іншымі.

Але трэба сказаць, гэта быў не толькі вечар успамінаў, а хутчэй сустрэча творчых пакаленняў. Хаця, безумоўна, успаміны пераважалі. Артысты, мастакі, мастацтвазнаўцы, сябры прыгадвалі розныя цікавыя і нават смешныя падзеі, здарэнні, выпадкі з яскравага жыцця артыста і рэжысёра. І з гэтых успамінаў, нібы з мазаічных кавалачкаў, перад прысутнымі паўставаў вобраз прыгожага, добрага, таленавітага чалавека, якім быў і застаўся ў памяці сучаснікаў Канстанцін Мікалаевіч Саннікаў — адзін з вядомейшых дзеячаў тэатра, цудоўны педагог, народны артыст БССР.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## НІЧОГА, АКРАМЯ ПРАФІЛАКТЫКІ...

**Напалоханыя эканамічным і сацыяльным крызісам у нашай краіне, мы апошнім часам звяртаем мала ўвагі на праблемы сусветныя. Між іншым, яны нагадваюць аб сабе на Беларусі. З пачатку 96-га года ў рэспубліцы павысілася выяўляльнасць вірусаносьбітаў СНІДу. Зараз афіцыйна зарэгістравана 120 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, сем з іх дабавіліся ў гэтым годзе. Для параўнання: за ўвесь мінулы год было выяўлена 10 носьбітаў непераможнага пакуль вірусу.**

**Сітуацыю тлумачыць урач-эпідэміёлаг Беларускага цэнтра прафілактыкі СНІДу Віктар КАЛАСОЎСКІ:**

— Яшчэ напрыканцы мінулага года лічба выяўленых на Беларусі ВІЧ-інфіцыраваных пачала расці. У асноўным, пры абследаванні людзей, якія прыбываюць на вучобу ў беларускія ВНУ з замежных краін. У снежні мінулага года мы выявілі чатырох інфіцыраваных замежнікаў, у студзені 96-га — 6 прадстаўнікоў іншых краін, у асноўным афрыканскіх. «Засвяціўся» адзін наш суграмадзянін у Віцебскай вобласці.

**— Але калі параўнаць беларускую статыстыку са статыстыкай нашых бліжэйшых суседзяў, то быццам бы падстаў для хвалявання няма.**

— Трывожыць кожны новы выпадак ВІЧ-інфекцыі. Прынята лічыць, што на аднаго выяўленага вірусаносьбіта прыпадаюць 10—12 нявыяўленых. Вядома, у нас пакуль не было такіх успышак, як, напрыклад, на Украіне, асабліва ў Адэскай і Нікалаеўскай абласцях сярод наркаманаў. Зараз на Украіне 2132 ВІЧ-інфіцыраваныя — гэта болей, чым у Расіі. Беларусь аказалася ў даволі небяспечным акружэнні, калі ўспомніць яшчэ і пра Польшчу, дзе 70 працэнтаў ВІЧ-інфіцыраваных выяўлена менавіта сярод наркаманаў. А наркотыкі, як вядома, здольны пранікаць скрозь любыя межы...

**— Які найбольш распаўсюджаны на Беларусі шлях перадачы вірусу СНІДу?**

— Ёсць сярод нашага «кантынгенту» ўсе групы рызыкі. Хоць мы лічым, што «група рызыкі» — паняцце ўмоўнае, няшчасце можа напаткаць любога чалавека, які не клапоціцца пра сваю бяспеку. Таму што па-ранейшаму асноўны шлях перадачы ВІЧ-інфекцыі — палавы. А калі прыняць пад увагу рост венерычных захворванняў сярод моладзі, то прагнозы могуць быць вельмі сумнымі. Напрыклад, у 1988 годзе па рэспубліцы былі зарэгістраваны 142 выпадкі сіфілісу, захворваемасць на 100 тысяч насельніцтва — 1,4. У 1989 годзе тэмпы прыросту захворваемасці ў параўнанні з папярэднім годам склалі 28 працэнтаў. А вось лічбы за 1995 год: 15.356 выпадкаў па рэспубліцы, паказчык захворваемасці на 100 тысяч — 148,9, тэмпы росту ў параўнанні з мінулым годам — 106,5 працэнта. Тэарэтычна з вынікамі цяперашняй сексуальнай рэвалюцыі цэнтр прафілактыкі СНІДу можа сутыкнуцца праз тры-чатыры гады — з улікам інкубацыйнага перыяду вірусу. Таму мы па-ранейшаму імкнёмся дастукацца да розуму моладзі, таму і паўтараем раз за разам аб неабходнасці прафілактыкі. Нічога іншага, каб папярэдзіць СНІД, чалавецтва пакуль не прыдумала. Нічога лепшага, акрамя прафілактыкі, медыцына ўвогуле не ведае.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## У БЕЛАРУСІ АДЗНАЧАЮЦЦА ТЭНДЭНЦЫІ ДА СКАРАЧЭННЯ КОЛЬКАСЦІ НАСЕЛЬНІЦТВА

**Да канца гэтага года, магчыма, Беларускі дзіцячы фонд стане членам Камітэта няўрадавых арганізацый пры Міжнародным дзіцячым фондзе ЮНІСЕФ. Аб гэтым паведаміў пасля вяртання з Жэневы прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду, член Нацыянальнай камісіі па правах дзяцей Уладзімір Ліпскі.**

У Беларусі адзначаюцца негатыўныя тэндэнцыі да скарачэння колькасці насельніцтва. Выкліканы яны пастаянным пагаршэннем сацыяльна-эканамічных умоў. Як адзначаецца ў Нацыянальным дакладзе аб становішчы дзяцей і жанчын у Беларусі, у гэтых умовах «усё часцей адбываецца распад сем'яў, усё больш дзяцей застаецца на ўтрыманні аднаго з бацькоў (звычайна, маці)... Маладыя сем'і асабліва часта распадаюцца, і трэцяя частка разводаў прыпадае на шлюбы, якія праіснавалі менш чым 5 гадоў. Зніжаецца нараджальнасць, і пры ўзроўні 1,5 дзіцяці на жанчыну можна канстатаваць, што яна ўжо ніжэй за ўзровень простага ўзнаўлення». У пацвярджэнне Уладзімір Ліпскі прывёў некаторыя лічбы. Калі на 1 студзеня мінулага года ў рэспубліцы налічвалася 2 мільёны 722 тысячы 600 дзяцей, то на 1 студзеня гэтага — 2 мільёны 672 тысячы 952 дзіцяці. Прычым з іх 14 тысяч дзяцей-сірот (і гэтая лічба пастаянна расце) і 20 тысяч 600 дзяцей-інвалідаў. На бюджэтныя асігнаванні ўтрымліваецца 138 школ-інтэрнатаў, 22 дзіцячыя дамы, 83 спецшколы, 13 дамоў дзіцяці.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці ў Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, прыняты Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 6 снежня 1984 года (ЗЗ БССР, 1984 г., №35, арт. 505; 1985 г., №35, арт. 505; 1987 г., №26, арт. 337; Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1991 г., №13(15), арт. 153; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., №15, арт. 253, №34, арт. 537; 1993 г., №8, арт. 48; 1994 г., №4, арт. 34; 1995г., №18, арт. 194), наступныя змяненні і дапаўненні:

1. У артыкулах 47 і 48 словы «ад адной да трох мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да дзесяці мінімальных заработных плат» і «ад дзесяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат».

2. У артыкуле 49 словы «ад адной да трох мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да дзесяці мінімальных заработных плат» і «ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

3. У артыкуле 52 словы «да адной мінімальнай заработнай платы» і «ад адной да трох мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да трох мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат».

4. У артыкуле 53:

у частцы першай словы «ад адной да пяці мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да дзесяці мінімальных заработных плат» і «ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат»;

у частцы другой словы «да адной мінімальнай заработнай платы» і «ад адной да трох мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да трох мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат».

5. У артыкуле 54 словы «ад адной да трох мінімальных заработных плат» замяніць словамі «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат».

6. У артыкуле 55 словы «да трох мінімальных заработных плат» замяніць словамі «ад адной да трох мінімальных заработных плат».

7. У артыкуле 56 словы «да адной мінімальнай заработнай платы» замяніць словамі «ад адной да пяці мінімальных заработных плат» і дапоўніць артыкул словамі «і на службовых асоб — ад пяці да дзесяці мінімальных заработных плат».

8. У артыкуле $56^2$ словы «да адной мінімальнай заработнай платы» замяніць словамі «ад пяці да дзесяці мінімальных заработных плат».

9. Дапоўніць Кодэкс артыкулам $56^3$ наступнага зместу:

«Артыкул $56^3$. Рэалізацыя праектаў, якія падлягаюць дзяржаўнай экалагічнай экспертызе, без станоўчага заключэння дзяржаўнай экалагічнай экспертызы

Рэалізацыя праектаў, якія падлягаюць дзяржаўнай экалагічнай экспертызе, без станоўчага заключэння дзяржаўнай экалагічнай экспертызы —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

10. У артыкуле 57:

у частцы першай словы «ад адной да трох мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да дзесяці мінімальных заработных плат» і «ад дзесяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат»;

у частках другой і трэцяй словы «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

11. У артыкуле 58 словы «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць словамі «ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

12. Артыкулы 59, 60 і 61 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 59. Парушэнне правіл аховы водных рэсурсаў

Забруджванне і засмечванне вод або парушэнне рэжыму ўтрымання водаахоўных зон рэк, вадаёмаў і вадацёкаў, а таксама парушэнне водаахоўнага рэжыму на вадазборах, якое выклікае іх забруджванне, водную эрозію глеб і іншыя шкодныя з'явы, —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад адной да дзесяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад трох да дваццаці пяці мінімальных заработных плат.

Увод у эксплуатацыю прамысловых, камунальных і іншых аб'ектаў без збудаванняў і ўстройстваў, якія прадухіляюць забруджванне і засмечванне вод або іх шкоднае ўздзеянне, —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у размеры ад пяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат.

Увод у эксплуатацыю аб'ектаў, указаных у частцы другой гэтага артыкула, без збудаванняў і ўстройстваў, якія забяспечваюць улік і рацыянальнае выкарыстанне вод, —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у размеры ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат.

Артыкул 60. Парушэнне правіл водакарыстання

Забор вады з перавышэннем лімітаў, зацверджаных упаўнаважанымі на тое дзяржаўнымі органамі, або самавольнае правядзенне гідратэхнічных работ, або нерацыянальнае выкарыстанне вады, або парушэнне парадку статыстычнай справаздачнасці, вядзення першапачатковага ўліку колькасці забіраемых з водных аб'ектаў і скідваемых у іх вод і вызначэння якасці скідваемых вод —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у размеры ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат.

Артыкул 61. Пашкоджанне водагаспадарчых збудаванняў і ўстройстваў, а таксама збудаванняў і ўстройстваў, якія прадухіляюць забруджванне і засмечванне вод, парушэнне правіл іх эксплуатацыі

Пашкоджанне водагаспадарчых збудаванняў і ўстройстваў, а таксама збудаванняў і ўстройстваў, якія прадухіляюць забруджванне і засмечванне вод, —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат.

Парушэнне правіл эксплуатацыі збудаванняў і ўстройстваў, якія прадухіляюць забруджванне і засмечванне вод, або парушэнне ўстаноўленых умоў скідвання сцёкавых вод —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у размеры ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

13. Дапоўніць Кодэкс артыкулам $64^1$ наступнага зместу:

«Артыкул $64^1$. Пашкоджанне або знішчэнне зялёных насаджэнняў, якія не ўваходзяць у дзяржаўны лясны фонд

Пашкоджанне або знішчэнне ахоўных насаджэнняў уздоўж чыгунак, полеахоўных палос, дрэў або груп дрэў, іншай драўнінна-хмызняковай раслінаcці, размешчанай на землях сельскагаспадарчага прызначэння,—

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад адной да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

14. Артыкул 69 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 69. Самавольнае сенакашэнне і выпас жывёлы, самавольны збор дзікарослых пладоў, насення, арэхаў, грыбоў, ягад і лекавых раслін

Самавольнае сенакашэнне і выпас жывёлы ў лясах і на землях дзяржаўнага ляснога фонду, не пакрытых лесам, —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад адной да трох мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад трох да пятнаццаці мінімальных заработных плат.

Самавольны збор пладоў, насення, арэхаў і ягад дзікарослых раслін, а таксама лекавых раслін, грыбоў і іншых раслінных рэсурсаў на ўчастках, дзе гэта забаронена (запаведнікі, запаведныя зоны нацыянальных паркаў) або дапускаецца па спецыяльных дазволах (лясных білетах), —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад адной да трох мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат.

Збор дзікарослых пладоў і ягад з парушэннем устаноўленых тэрмінаў іх збору, прымяненне забароненых метадаў збору ягад і грыбоў —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад адной да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад дзесяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат».

15. Дапоўніць Кодэкс артыкулам $69^1$ наступнага зместу:

«Артыкул $69^1$. Самавольны збор або знішчэнне ляснога подсцілу або жывога наглебавага покрыва

Самавольны збор або знішчэнне ляснога подсцілу або жывога наглебавага покрыва, зняцце або знішчэнне ўрадлівага слоя глебы, уключаючы падсцілаючыя пароды на землях дзяржаўнага ляснога фонду, для выкарыстання ў мэтах, не звязаных з вырошчваннем лесу, —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад адной да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

16. У артыкуле 70 словы «да дзвюх мінімальных заработных плат» замяніць словамі «ад адной да пяці мінімальных заработных плат».

17. У артыкуле 72 словы «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць словамі «ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

18. У артыкуле 73 словы «ад адной да трох мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да пяці мінімальных заработных плат» і «ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

19. У артыкуле 76 словы «ад адной да трох мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да пяці мінімальных заработных плат» і «ад пяці да дзесяці мінімальных заработных плат».

20. У артыкуле 77:

у частцы першай словы «да адной мінімальнай заработнай платы» і «ад адной да трох мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да трох мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат»;

у частцы другой словы «да трох мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да пяці мінімальных заработных плат» і «ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

21. Дапоўніць Кодэкс артыкулам $77^1$ наступнага зместу:

«Артыкул $77^1$. Выпальванне сухой расліннасці, а таксама ржышча і пажніўных астаткаў на палях ці непрыняцце мер па ліквідацыі выжарын

Выпальванне сухой расліннасці, а таксама ржышча і пажніўных астаткаў на палях ці непрыняцце мер па ліквідацыі выжарын на зямельных участках, якія знаходзяцца ў валоданні, карыстанні або ва ўласнасці, —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад адной да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

22. У артыкуле 78 словы «папярэджанне або» выключыць, а словы «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць словамі «ад трох да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

23. У артыкуле 79 словы «папярэджанне або» выключыць, а словы «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць словамі «ад дзесяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат».

24. У артыкуле 80 словы «папярэджанне або» выключыць, а словы «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць словамі «ад пяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат».

25. У артыкуле 81 словы «да 0,5 мінімальнай заработнай платы» замяніць словамі «ад адной да пяці мінімальных заработных плат».

26. У артыкуле 82 словы «да 0,2 мінімальнай заработнай платы» замяніць словамі «ад 0,5 да трох мінімальных заработных плат».

27. Артыкул 83 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 83. Парушэнне правіл складзіравання прамысловых і бытавых адходаў, невыкананне патрабаванняў па ахове атмасфернага паветра пры спальванні ўказаных адходаў

Парушэнне правіл складзіравання прамысловых і бытавых адходаў, невыкананне патрабаванняў па ахове атмасфернага паветра пры спальванні ўказаных адходаў —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад адной да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад пяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат».

28. Дапоўніць Кодэкс артыкулам $83^1$ наступнага зместу:

«Артыкул $83^1$. Спальванне паліва ва ўстаноўках, устройствах і ў агрэгатах, не прызначаных для выкарыстання дадзенага віду паліва, рэалізацыя паліва без сертыфікату якасці

Спальванне паліва ва ўстаноўках, устройствах і ў агрэгатах, не прызначаных для выкарыстання дадзенага віду паліва, а таксама рэалізацыя паліва без сертыфікату якасці —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у размеры ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

29. Артыкул 84 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 84. Парушэнне правіл і норм транспарціроўкі, захоўвання і прымянення сродкаў аховы раслін і іншых прэпаратаў, якое выклікала або можа выклікаць забруджванне навакольнага асяроддзя

Парушэнне правіл і норм транспарціроўкі, захоўвання і прымянення сродкаў аховы раслін і іншых прэпаратаў, якое выклікала або можа выклікаць забруджванне навакольнага асяроддзя, —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад адной да дзесяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад пяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат».

30. У назве і тэксце артыкула 85 словы «атмасфернага паветра» замяніць словамі «навакольнага асяроддзя», а словы «да дзвюх мінімальных заработных плат» і «ад адной да трох мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да пяці мінімальных заработных плат» і «ад трох да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

31. Дапоўніць Кодэкс артыкуламі $85^1$ і $85^2$ наступнага зместу:

«Артыкул $85^1$. Невыкананне патрабаванняў заключэння дзяржаўнай экалагічнай экспертызы

Невыкананне патрабаванняў заключэння дзяржаўнай экалагічнай экспертызы —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у размеры ад пяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат.

Артыкул $85^2$. Парушэнне ўстаноўленага парадку ўвозу ў Рэспубліку Беларусь усіх відаў адходаў, матэрыялаў і прадукцыі, якія былі ў карыстанні або са скончаным тэрмінам годнасці

Парушэнне ўстаноўленага парадку ўвозу ў Рэспубліку Беларусь усіх відаў адходаў, матэрыялаў і прадукцыі, якія былі ў карыстанні або са скончаным тэрмінам годнасці, —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад пяці да дзесяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад дзесяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат».

32. У артыкулах 86, $86^1$ і $86^2$ словы «ад адной да трох мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да пяці мінімальных заработных плат» і «ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

33. Артыкул $86^3$ выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул $86^3$. Незаконны вываз з Рэспублікі Беларусь дзікіх жывёл і раслін, іх частак і дэрыватаў, гандаль якімі рэгулюецца міжнароднымі пагадненнямі, а таксама ўвоз відаў жывёл і раслін, якія могуць наносіць урон захаванню відаў жывёл і раслін, занесеных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь

Незаконны вываз з Рэспублікі Беларусь дзікіх жывёл і раслін, іх частак і дэрыватаў, гандаль якімі рэгулюецца міжнароднымі пагадненнямі, а таксама ўвоз відаў жывёл і раслін, якія могуць наносіць урон захаванню відаў жывёл і раслін, занесеных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад дзесяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат».

34. У артыкуле $86^4$ словы «ад адной да трох мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да пяці мінімальных заработных плат» і «ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

35. У артыкуле 87:

у частцы першай словы «ад адной да трох мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад адной да пяці мінімальных заработных плат» і «ад пяці да дзесяці мінімальных заработных плат»;

у частцы другой словы «ад адной да трох мінімальных заработных плат» і «ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат» замяніць адпаведна словамі «ад пяці да дзесяці мінімальных заработных плат» і «ад дваццаці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат».

36. Артыкул 88 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 88. Парушэнне рэжыму асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторый і аб'ектаў або іх нямэтавае выкарыстанне

Парушэнне рэжыму асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторый і аб'ектаў (запаведнікаў, нацыянальных паркаў, заказнікаў, помнікаў прыроды, а таксама жывёл і раслін, якія адносяцца да відаў, занесеных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь) або іх нямэтавае выкарыстанне —

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры ад адной да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — ад пяці да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

37. У артыкуле 142:

дапоўніць артыкул словамі «і на службовых асоб — ад дзесяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат»;

дапоўніць артыкул часткай другой наступнага зместу:

«Выдача дазволаў на будаўніцтва або заняцце зямельнага ўчастка да атрымання дакументаў, якія засведчваюць права валодання, карыстання і ўласнасці на зямлю, —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у размеры ад дзесяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат».

38. У артыкуле $167^8$ словы «да адной мінімальнай заработнай платы» замяніць словамі «ад адной да пяці мінімальных заработных плат».

39. У артыкуле 189 словы «ад адной да трох мінімальных заработных плат» замяніць словамі «ад адной да пяці мінімальных заработных плат».

40. У артыкуле 190 словы «да адной мінімальнай заработнай платы» замяніць словамі «ад адной да трох мінімальных заработных плат».

41. Артыкулы 218 і 219 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 218. Органы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь

Органы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь разглядаюць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных артыкуламі 47—49, $50^1$, 52, 53, 54—$56^3$, 57—89, $167^8$, 189, 190 (за парушэнні ў галіне выкарыстання і аховы зямель, нетраў, паверхневых і падземных вод, атмасфернага паветра, расліннага і жывёльнага свету, а таксама за парушэнне норм экалагічнай бяспекі і парадку абыходжання з адходамі), выяўленых гэтымі органамі.

Разглядаць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях і накладаць адміністрацыйныя спагнанні ад імя органаў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь маюць права:

Міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і яго намеснікі, старшыні абласных (Мінскага гарадскога) камітэтаў прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, начальнікі спецыялізаваных інспекцый і ўпраўленняў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь — на грамадзян штраф у размеры да дзесяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — да пяцідзесяці мінімальных заработных плат;

намеснікі старшынь абласных (Мінскага гарадскога) камітэтаў прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, начальнікі спецыялізаваных інспекцый абласных (Мінскага гарадскога) камітэтаў прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і начальнікі раённых (гарадскіх) і міжраённых інспекцый прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, начальнікі аддзелаў спецыялізаваных інспекцый Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь, начальнікі аддзелаў абласных камітэтаў прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя — на грамадзян штраф у размеры да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — да дваццаці пяці мінімальных заработных плат.

Артыкул 219. Органы рыбаахоы

Органы рыбаахоы разглядаюць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных артыкулам $50^1$, часткай першай артыкула 59, артыкуламі 60, 61, 86—$86^4$, 87, 88 (за парушэнні ў галіне выкарыстання і аховы паверхневых вод, расліннага і жывёльнага свету, у тым ліку правіл палявання, рыбалоўства і аховы рыбных запасаў, а таксама за парушэнне норм экалагічнай бяспекі), выяўленых гэтымі органамі.

Разглядаць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях і накладаць адміністрацыйныя спагнанні ад імя органаў рыбаахоы маюць права:

старшыня Камітэта рыбаахоы і яго намеснікі, начальнік аддзела рыбаахоы Камітэта рыбаахоы, старшыя дзяржаўныя інспектары — начальнікі абласных інспекцый рыбаахоы, старшы дзяржаўны інспектар — начальнік аператыўнай інспекцыі Камітэта рыбаахоы — на грамадзян штраф у размеры да дзесяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — да пяцідзесяці мінімальных заработных плат;

старшыя дзяржаўныя інспектары — начальнікі міжраённых і раённых інспекцый рыбаахоы — на грамадзян штраф у размеры да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — да дваццаці пяці мінімальных заработных плат».

(Заканчэнне на 9-й стар.)

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях

(Заканчэнне. Пачатак на 8-й стар.)

42. Артыкул $224^5$ выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул $224^5$. Органы па зямельных рэсурсах і землеўпарадкаванню

Органы па зямельных рэсурсах і землеўпарадкаванню разглядаюць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных артыкуламі 47, 52, 53,54—$56^2$, часткай другой артыкула 142, артыкулам $167^8$ гэтага Кодэкса.

Разглядаць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях і накладаць адміністрацыйныя спагнанні ад імя органаў па зямельных рэсурсах і землеўпарадкаванню маюць права:

старшыня Камітэта па зямельных рэсурсах Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь і яго намеснікі — штраф на грамадзян у размеры да дзесяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — да пяцідзесяці мінімальных заработных плат;

загадчыкі аддзелаў па зямельных рэсурсах і землеўпарадкаванню абласных выканаўчых камітэтаў і іх намеснікі, намеснік старшыні Камітэта архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, начальнікі аддзелаў Камітэта па зямельных рэсурсах Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь — штраф на грамадзян у размеры да пяці мінімальных заработных плат і на службовых асоб — да дваццаці пяці мінімальных заработных плат;

загадчыкі аддзелаў (начальнікі ўпраўленняў) па зямельных рэсурсах і землеўпарадкаванню раённых, гарадскіх выканаўчых камітэтаў — штраф на грамадзян у размеры да трох мінімальных заработных плат і на службовых асоб — да дзесяці мінімальных заработных плат».

43. У артыкуле 291:

у абзацах чацвёртым і пятым словы «Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па экалогіі» замяніць словамі «Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь»;

у абзацы пятым словы «часткай першай артыкула 87 (за ўчыненне парушэнняў правіл рыбалоўства і аховы рыбных запасаў)» замяніць словамі «артыкулам 87».

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА**

*16 мая 1996 г., г.Мінск.*
*№324–XIII.*

# ПАСТАНОВА ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб узнагароджанні ШАЎЧЭНКІ А.І. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую плённую працу ў галіне адукацыі, важкі асабісты ўклад у справу выхавання падрастаючага пакалення ўзнагародзіць дырэктара сярэдняй школы №9 г.Гродна Шаўчэнку Аляксандра Іванавіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

*6 мая 1996 г., г. Мінск. №266–XIII.*

# ПАСТАНОВА ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб узнагароджанні БАРАВІКА М.М. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

За шматгадовую добрасумленную працу ў будаўнічай галіне ўзнагародзіць начальніка Мінскага мантажнага ўпраўлення №2 акцыянернага прадпрыемства «Белэлектрамантаж» Баравіка Міхаіла Максімавіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

*6 мая 1996 г., г. Мінск. №268–XIII.*

# ПАСТАНОВА ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб узнагароджанні супрацоўнікаў Рэспубліканскага вучылішча алімпійскага рэзерву Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За заслугі ў развіцці фізічнай культуры і спорту, плённую педагагічную дзейнасць узнагародзіць Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

**ТАЙЦА Міхаіла Аляксеевіча** — старшага трэнера.

**ЮШКЕВІЧ Ірыну Іванаўну** — намесніка дырэктара па вучэбнай рабоце.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ**

*6 мая 1996 г., г. Мінск № 265-XIII*

ІМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ЗАКЛЮЧЭННЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб адпаведнасці Канстытуцыі артыкула 88 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» і артыкула 56 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў»

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — старшыні Канстытуцыйнага суда Ціхіні В. Г., суддзяў Васілевіча Г. А., Вашкевіча А. Е., Кеніка К. І., Пастухова М. І., Падгрушы В. В., Серады Н. М., Цішкевіча С. І., Філіпчык Р. І., Чудакова М. Ф.

з удзелам прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які прыняў нарматыўны акт:

Скрыган Е. Н. — намесніка старшыні Камісіі па сацыяльнай палітыцы і працы; Шчукіна В. А. — сакратара Камісіі па нацыянальнай небяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю; Юркевіч Г. І. — заг. аддзела экспертна-прававога ўпраўлення Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

эксперта Мялешкі Х. Т. — дацэнта кафедры грамадзянскага працэсу і працоўнага права Беларускага дзяржаўнага універсітэта, кандыдата юрыдычных навук

разгледзеў у адкрытым судовым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі артыкула 88 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» і артыкула 56 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў».

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел:

Камянкоў В. С. — намеснік старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь,

Сашчэка І. Ф. — намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь,

Бачкова Г. В. — намеснік міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Вытворчасць па справе ўзбуджана 29 сакавіка 1996 г. Канстытуцыйным судом па свайму меркаванню на падставе часткі другой артыкула 127 Канстытуцыі, часткі другой артыкула 5 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь».

Праверцы падлягалі артыкул 88 Закона Рэспублікі Беларусь ад 17 красавіка 1992 г. «Аб пенсіённым забеспячэнні» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. 1992 г. № 17, арт. 275) і артыкул 56 Закона Рэспублікі Беларусь ад 17 снежня 1992 г. «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. 1992 г. № 36, арт. 571), у адпаведнасці з якімі ў выпадку пазбаўлення пенсіянера волі выплата прызначанай яму пенсіі прыпыняецца на тэрмін пазбаўлення волі.

Выслухаўшы прадстаўнікоў бакоў, эксперта, вывучыўшы матэрыялы справы, прааналізаваўшы нормы Канстытуцыі, законаў і міжнародна-прававых актаў, Канстытуцыйны суд прыйшоў да наступных высноў.

У адпаведнасці з артыкулам 1 Канстытуцыі Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава.

Артыкулам 47 Канстытуцыі грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на сацыяльнае забеспячэнне ў старасці, у выпадку хваробы, інваліднасці, страты працаздольнасці, страты карміцеля і ў іншых выпадках, прадугледжаных законам.

У артыкуле 21 Канстытуцыі ўказана, што забеспячэнне правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь з'яўляецца найвышэйшай мэтай дзяржавы. Дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзян Беларусі, замацаваныя ў Канстытуцыі, законах і прадугледжаныя міжнароднымі абавязацельствамі дзяржавы.

Артыкулам 22 Канстытуцыі ўстаноўлена, што ўсе роўныя перад законам і маюць права без усялякай дыскрымінацыі на аднолькавую абарону правоў і законных інтарэсаў.

Артыкул 23 Канстытуцыі прадугледжвае, што абмежаванне правоў і свабод асобы дапускаецца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам, у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны маралі, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых асоб.

У адпаведнасці з артыкулам 63 Канстытуцыі ажыццяўленне прадугледжаных Канстытуцыяй правоў і свабод асобы можа быць прыпынена толькі ва ўмовах надзвычайнага ці ваеннага становішча ў парадку і межах, вызначаных Канстытуцыяй і законам.

У адпаведнасці з артыкулам 22 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека кожны чалавек, як член грамадства, мае права на сацыяльнае забеспячэнне і на ажыццяўленне неабходных для падтрымання яго годнасці і для свабоднага развіцця яго асобы правоў у эканамічнай, сацыяльнай і культурнай галінах пры дапамозе нацыянальных намаганняў і міжнаронага супрацоўніцтва і ў адпаведнасці са структурай і рэсурсамі кожнай дзяржавы.

Артыкулам 9 Міжнароднага пакта аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, ратыфікаванага Рэспублікай Беларусь, устаноўлена, што дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, прызнаюць права кожнага чалавека на сацыяльнае забеспячэнне, уключаючы сацыяльнае страхаванне.

Канстытуцыйнае права грамадзян Рэспублікі Беларусь на пенсіённае забеспячэнне замацавана, у прыватнасці, у законах «Аб пенсіённым забеспячэнні» і «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў».

Артыкулам 4 Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні» прадугледжаны пенсіі: працоўныя (па ўзросту, па інваліднасці, у выпадку страты карміцеля, за выслугу гадоў, за асаблівыя заслугі перад рэспублікай) і сацыяльныя.

У адпаведнасці з артыкулам 5 гэтага закона права на працоўную пенсію маюць асобы, занятыя грамадска карыснай працай ці іншай дзейнасцю, якая залічваецца ў стаж работы, і іх сем'і, а таксама навучэнцы агульнаадукацыйных школ. Непрацаздольныя грамадзяне, якія не атрымліваюць працоўнай пенсіі, маюць права на сацыяльную пенсію на ўмовах, устаноўленых законам.

Прыпыненне выплаты працоўнай пенсіі ў выпадках, прадугледжаных артыкулам 88 Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні» і артыкулам 56 Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў», азначае фактычна пазбаўленне грамадзяніна права на пенсію на акрэслены тэрмін.

Прыпыненне выплаты працоўнай пенсіі асуджанаму пенсіянеру набывае характар дадатковага пакарання, якое не прадугледжана дзеючым заканадаўствам. Акрамя таго, яно пазбаўляе ўтрыманцаў асуджанага права на атрыманне дапамогі з яго боку.

Прыпыненне выплаты працоўнай пенсіі пенсіянеру на час пазбаўлення волі не забяспечвае таксама пацярпеўшым права на спагнанне як маёмаснага ўрону, так і матэрыяльнай кампенсацыі маральнай шкоды.

Суд звяртае ўвагу на тое, што прымяненне норм названых законаў на практыцы ажыццяўляецца не толькі ў адносінах да асоб, асуджаных да пазбаўлення волі па прыгавору суда, але і асоб, у адносінах да якіх выбрана мера стрымання ў выглядзе змяшчэння пад варту. Такая практыка мае месца ў дзейнасці Міністэрства сацыяльнай абароны, Міністэрства ўнутраных спраў, Міністэрства абароны, Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.

Такім чынам, суд лічыць, што прыпыненне выплаты працоўнай пенсіі ў выпадку пазбаўлення пенсіянера волі з'яўляецца абмежаванем канстытуцыйнага права грамадзян на пенсіённае забеспячэнне і не адпавядае артыкулам 21, 22, 23 і 47 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У адрозненне ад працоўных пенсій, якія зароблены папярэдняй працай, выкананнем значных для грамадства абавязкаў, сацыяльныя пенсіі не маюць непасрэднай сувязі з грамадска карыснай дзейнасцю і таму законам могуць быць устаноўлены пэўныя абмежаванні ў іх выплаце.

На падставе выкладзенага і кіруючыся артыкуламі 127, 128, 129 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 11, 36, 38, 40, 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь

ВЫРАШЫЎ:

1. Прызнаць неадпаведнымі Канстытуцыі артыкул 88 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» і артыкул 56 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў» у частцы прыпынення выплаты працоўнай пенсіі на час пазбаўлення пенсіянера волі. Лічыць іх страціўшымі сілу з 1 чэрвеня 1996 года.

2. Прапанаваць Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь і органам выканаўчай улады прывесці законы і іншыя нарматыўныя акты ў адпаведнасць з гэтым заключэннем.

3. Апублікаваць гэтае заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Народнай газеце», «Звяздзе», а таксама ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» і тых выданнях, дзе былі апублікаваны названыя законы.

4. Гэтае заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В. Г. ЦІХІНЯ**

*28 мая 1996 г., г. Мінск*
*№ 3-36/96*

# ПАСТАНОВЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб стварэнні Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню факта затрымання праваахоўнымі органамі дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Знаўца П.К.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Стварыць Часовую камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню факта затрымання праваахоўнымі органамі Знаўца Паўла Кірылавіча ў наступным складзе:

Грыб М.І.,
Аляксеенка Г.П.,
Зінчанка А.М.,
Дабравольскі А.А.,
Нісцюк У.П.,
Ганчар В.І.,
Біч А.М.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

*17 мая 1996 г., г.Мінск. № 298-XIII*

## Аб зацвярджэнні сакратара Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць сакратаром Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры Аляксеенку Генадзя Паўлавіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Чавускай выбарчай акругі № 175 Магілёўскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

*16 мая 1996 г., г. Мінск.№ 291-XIII*

## Аб зацвярджэнні справаздачы аб выкананні рэспубліканскага бюджэту за 1994 год

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць справаздачу аб выкананні рэспубліканскага бюджэту за 1994 год па даходах у суме 4 151 535,6 млн. рублёў і па расходах у суме 4 860 621,5 млн. рублёў з перавышэннем расходаў над даходамі ў суме 709 085,9 млн. рублёў.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

*16 мая 1996 г., г. Мінск. № 296-XIII*

## Аб ратыфікацыі Дагавора паміж Рэспублікай Беларусь, Рэспублікай Казахстан, Кыргызскай Рэспублікай і Расійскай Федэрацыяй аб паглыбленні інтэграцыі ў эканамічнай і гуманітарнай галінах, падпісанага 29 сакавіка 1996 года ў г.Маскве

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Ратыфікаваць Дагавор паміж Рэспублікай Беларусь, Рэспублікай Казахстан, Кыргызскай Рэспублікай і Расійскай Федэрацыяй аб паглыбленні інтэграцыі ў эканамічнай і гуманітарнай галінах, падпісаны 29 сакавіка 1996 года ў Маскве з агаворкамі да артыкула 2, часткі восьмай, артыкулаў 13, 24.

Да артыкула 2, часткі восьмай:

Выкарыстанне кантынгенту Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь па-за яе межамі для сумеснай аховы знешніх граніц Бакоў можа быць ажыццёўлена толькі на падставе адпаведнага рашэння Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Да артыкула 13:

Рэспубліка Беларусь прадастаўляе грамадзянства грамадзянам Бакоў у адпаведнасці з яе нацыянальным заканадаўствам.

Да артыкула 24:

Рашэнні Міждзяржаўнага Савета, якія падлягаюць трансфармацыі ў нацыянальнае заканадаўства Бакоў, носяць рэкамендацыйны характар для Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які ў адпаведнасці з артыкулам 79 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь з'яўляецца адзіным заканадаўчым органам краіны.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

*24 мая 1996 г., г. Мінск № 323-XIII*

## Аб выбранні членаў Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

У адпаведнасці з артыкулам 126 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь выбраць членамі Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь Вашкевіча Аляксандра Яўгенавіча і Чудакова Міхаіла Піліпавіча.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

*24 мая 1996 г., г. Мінск. № 332-XIII*

# У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў пастанавіў утварыць пры ўрадзе Камісію па пытаннях пашпартызацыі насельніцтва. Гэтай жа пастановай зацверджаны палажэнне аб Камісіі па пытаннях пашпартызацыі насельніцтва і яе персанальны састаў згодна з дадаткам. Старшынёй камісіі назначаны намеснік прэм'ер-міністра Сяргей Лінг.

Прызнана страціўшым сілу распараджэнне Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 14 жніўня 1992 г. № 820р.

* * *

Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб стаўках аўтарскага ўзнагароджання за выкананне заказаў на стварэнне твораў літаратуры і мастацтва для публічнага выканння ці за права першага публічнага выканання неапублікаваных твораў.

Парадак выкарыстання твора літаратуры і мастацтва для публічнага выканання прадугледжваецца дагаворам паміж аўтарам і арганізацыяй, што набыла гэты твор для публічнага выканання, з вызначэннем памеру аўтарскага ўзнагароджання ў межах ставак, устаноўленых гэтай пастановай на момант заключэння дагавора.

Прынятай пастановай дазволена міністэрствам, дзяржаўным камітэтам і іншым цэнтральным органам кіравання, арганізацыям, установам, якія ажыццяўляюць набыццё твораў літаратуры і мастацтва для публічнага выканання ў адпаведнасці з рашэннем мастацка-экспертнай камісіі Міністэрства культуры павялічыць да 50 працэнтаў памеры ставак аўтарскага ўзнагароджання ў выпадку, калі выкананыя аўтарскія работы з'яўляюцца творамі павышанай складанасці і высокай мастацкай каштоўнасці.

Пры гэтым стаўкі аўтарскага ўзнагароджання, прадугледжаныя гэтай пастановай, прымяняюцца да плацяжоў, права на атрыманне якіх узнікла з 1 чэрвеня 1996 г.

Міністэрству культуры па ўзгадненню з Міністэрствам адукацыі і навукі даручана распрацаваць і зацвердзіць парадак прымянення ставак аўтарскага ўзнагароджання, устаноўленых гэтай пастановай.

Прызнана страціўшай сілу з 1 чэрвеня 1996 г. Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28 красавіка 1994 г. № 86 «Аб стаўках аўтарскага ўзнагароджання за выкананне заказаў на стварэнне твораў літаратуры і мастацтва для публічнага выканання ці за права першага публічнага выканання неапублікаваных твораў».

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

ФУТБОЛ

# ШВЕДСКАЕ ФІЯСКА

## Спецыяльны карэспандэнт «Звязды» перадае са Стакгольма

**Дэбют нацыянальнай зборнай па футболу ў рамках адборачных гульняў чэмпіянату свету аказаўся змазаным. І сёння цяжка знайсці довады, каб неяк растлумачыць разгромны лік 1:5....**



Шведы трыумфавалі, а нашым ігракам заставалася толькі прыняць гарачы душ на стадыёне «Расунда», таму што пад халодным яны аказаліся прама на футбольным полі.

Наогул, афіцыйнай сустрэчы са скандынавамі папярэднічалі чатыры таварыскія гульні беларусаў: з туркамі, славакамі, палякамі і азербайджанцамі. У галоўнага трэнера зборнай Сяргея Бароўскага несумненна, было шмат варыянтаў найбольш аптымальнага саставу каманды, без спадзяванняў на ізраільскіх і расійскіх «легіянераў», якія ўсё часцей на матчы такога ўзроўню прыязджаюць без адпаведнай формы.

Аднак у чарговы раз прыходзіцца канстатаваць, што ў нацыянальнай камандзе рэспублікі няма ігракоў нармальнага еўрапейскага ўзроўню, сапраўднага лідэра, які змог бы трымаць ніці гульні ў сваіх руках. Праўда, нават адзін саліст у шматгалосым хоры не зможа спяваць па-свойму, каб яго чулі.

Свой візіт у Скандынавію футбольная дэлегацыя Беларусі ў саставе нацыянальнай і маладзёжнай зборных, трэнераў, спецыялістаў, спонсараў і невялікага журналісцкага корпуса пачала з міжнароднага аэрапорта «Арланда». Звычайна прыезд зборнай за мяжой выклікае цікавасць прадстаўнікоў мясцовых сродкаў масавай інфармацыі. Але шведскіх рэпарцёраў тут не аказалася. Праўда, гэта зусім не азначала, што вікінгі не ўспрымалі беларусаў як сапернікаў. Яшчэ задоўга да вылету некалькі шведскіх журналістаў наведалі Мінск, правёўшы разведку боем у Беларускай федэрацыі футбола.

Як відаць, іх вяж не зусім удаўся, бо мясцовыя газеты паведамлялі, што «беларусы «цямнілі» ў таварыскіх сустрэчах, асабліва ў апошняй, з Азербайджанам, прыберагаючы сакрэтныя козыры для матча ў Стакгольме».

Здагадкі скандынаваў яшчэ больш узмацніліся пазней, калі маладзёжная зборная Беларусі пад кіраўніцтвам Івана Савосцікава і Юрыя Пышніка ўпэўнена перамагла гаспадароў з лікам 3:1 у прысутнасці больш чым трох тысяч гледачоў. Гульня праходзіла ў 80-тысячным гарадку Карлстад пад праліўным дажджом.

Шведы нясціпла называлі сябе прафесіяналамі. У параўнанні з імі наша маладзёжная зборная выглядала проста аматарскай.

Сустрэча атрымалася нялёгкай для абодвух бакоў. Нашы зрабілі стаўку на барацьбу на кожным метры поля. І гэта дало хуткі вынік. У інтэрвале паміж 8-й і 15-й хвілінамі Скрыпчанка двойчы паслаў мяч у вароты сапернікаў. Першы раз ён моцна і дакладна прабіў з-за межаў штрафной, а другі гол быў чыста камбінацыйны.

Пасля перапынку гаспадары поля змаглі адквітаць адзін гол, аднак пад канец сустрэчы пераможную кропку паставіў Дзенісюк.

Фінальны свісток застаў беларусаў у атацы. Мясцовыя балельшчыкі апладзіравалі гасцям за выдатную гульню, а многія нашы ігракі не паспявалі раздаваць аўтографы.

Напярэдадні ранішнія газеты Стакгольма ўжо стракацелі рознага роду футбольнай інфармацыяй. Аўтарытэтная «Aftonbladet» змясціла інтэрв'ю з Сяргеем Бароўскім і яго калегам Томі Свенсанам. Настаўнік шведаў сказаў прама: шлях у Францыю пачынаецца заўтра. Інакш, мяркуючы па прэсе, Свенсану пагражае адстаўка, бо няўдалае выступленне шведаў у адборачным цыкле чэмпіянату Еўропы сабрала хмары над кіраўніком шведскай зборнай.

Прычым Томі Свенсана нават не выратоўвала 3-е месца на чэмпіянаце свету ў ЗША.

Праўда, ужо на наступную раніцу, у дзень гульні нацыянальных зборных, шведская каманда расцэньвала свае шанцы на перамогу куды больш сціпла, бо над футбольнымі балельшчыкамі лунала ўчарашняе паражэнне ад маладзёжнай зборнай Беларусі.

А газета «Dagens NYHETER» наогул зрабіла сенсацыйнае паведамленне вуснамі галоўнага трэнера Івана Савосцікава. На пытанне журналіста, як вам удалося так добра згуляць, Іван Іванавіч адказаў вельмі ўнушальна: наша маладзёжная каманда моцная, а вось нацыянальная зборная — яшчэ мацнейшая.

У рады шведаў закралася няўпэўненасць і яны меркавалі, што зусім не памыліліся, палічыўшы таварыскія сустрэчы беларусаў адцягваючым манеўрам. На кон гаспадары паставілі ўсё: самааддачу, унутраны патрыятызм, падтрымку балельшчыкаў, якія за некалькі гадзін да пачатку сустрэчы ўжо стваралі эмацыянальны фон. З нумароў чатырохзоркавага «Hotel Winn», дзе размяшчалася наша галоўная каманда, гэта было выдатна чуваць. 37-тысячны стадыён «Расунда», да якога ад гасцініцы 5 хвілін хады, кіпеў у чаканні грандыёзнай бітвы.

На такіх паядынках звычайна патрэбны вялікая сабранасць і нават патрыятызм, які паказала «маладзёжка». На жаль, яго ў вачах беларускіх футбалістаў не было бачна. І гэта нават пры тым, што айчынная федэрацыя футбола падрыхтавала ігракам у выпадку ўдалай гульні нядрэнныя прэміяльныя.

Аднак гэты фактар, відаць, не паўплываў на тонкія пачуцці нашай зборнай, як, дарэчы, і на пачуццё адказнасці за сваю краіну, за тых людзей, якія дзякуючы спонсарам маглі глядзець прамую трансляцыю са Стакгольма. Магчыма, нашы тэлегледачы не звярнулі ўвагі на цырыманіял адкрыцця матча і асабліва на твары футбалістаў у час выканання дзяржаўных гімнаў.

Шведы, як і іншыя цывілізаваныя еўрапейцы, у гэты ўрачысты момант прыкладаюць руку да сэрца, а многія нават спяваюць гімн. Гэта было відаць па іх футбалістах. Напэўна, у такія хвіліны спартсмены адчуваюць гонар за сваю краіну і ўласную адказнасць перад тымі, хто сочыць за іх гульнёй.

На жаль, гімн у нашай краіны пакуль не мае слоў, аднак гэта зусім не азначае, што пад яго можна танцаваць лезгінку ці танга.

Не ведаю, ці вучылі некаторых беларускіх футбалістаў элементарнай культуры ў камандах, дзе яны гуляюць, ці проста ў жыцці. Аднак многія з іх падчас выканання мелодыі гімна ўяўлялі сябе на размінцы, бо патрэсвалі рукамі і нагамі, пачухвалі патыліцу, ад чаго ў многіх шведаў вочы рабіліся круглымі і яны ніяк не разумелі, што гэта з беларусамі адбываецца...



Адзін з момантаў гульні на «другім» паверсе.

Магчыма, калі б вынік матча быў станоўчы, то ніхто на такія «дробязі» не звярнуў бы ўвагі. Шведы, маючы ў сваіх радах такіх зорак еўрапейскага класа, як Далін, Андэрсан, Лімпар, яшчэ напачатку ўмацавалі свае абарончыя рэдуты чатырма ігракамі, выставіўшы столькі ж у паўабароне плюс два форварды.

Дарэчы, гаспадары поля ўсё ж з павагай аднесліся да беларусаў, пакінуўшы ім прастору ў цэнтры поля. Аднак наша каманда зусім не збіралася паўтараць дасягненне сваіх маладых калег і аддала сaперніку ўсю прастору пад яго кантроль. Адзін Бялькевіч не мог утрымаць гульню. Да таго ж яму прыходзілася для арганізацыі атакі пастаянна вяртацца назад у абарону, якая літаральна трашчала па швах. Гурэнка выглядаў бездапаможным у параўнанні з форвардам зборнай Швецыі Марцінам Далінам, які дагэтуль абараняў колеры «Барусіі» з нямецкага гарадка Менхенгладбах, а нядаўна падпісаў кантракт з італьянскай «Ромай» на суму 5,5 мільёна долараў.

Менавіта Далін і прымусіў свайго апекуна затрымаць яго ў штрафной, пасля чаго французскі арбітр Рэмі Харэл указаў на 11-метровую адзнаку. Пенальці бездакорна выканаў Кенет Андэрсан.

Ну, а далей усё пайшло ў шведаў як па масле. Дуэт Далін—Андэрсан да 62-й хвіліны давёў лік да 3:0. Праўда, перад гэтым пэўныя карэктывы мог унесці ў гульню Валянцін Бялькевіч. Аднойчы пасля ўдару мяч трапіў у штангу. Дарэчы, пасля перапынку з выхадам Качуры і Кульчыя гульня выраўнавалася, а гол усё таго ж Бялькевіча за 15 хвілін да канца сустрэчы неяк падсаладзіў пілюлю. Шведы вырашылі не чакаць непрыемных паваротаў у гульні, і сваёй ударнай машынай, вядучымі коламі якой акрамя Андэрсана і Даліна былі Андэрс Лімпар і Клас Ларсан, «ціснулі» абарону беларусаў. Варатар зборнай Андрэй Сацункевіч пры даволі ўнушальным адмоўным ліку некалькі разоў выратаваў вароты, аднак у выніку яму пяць разоў прыходзілася разводзіць рукамі перад шведамі.



Шведскія «вікінгі» падтрымліваюць сваю каманду

На пасляматчавай прэс-канферэнцыі і Томі Свенсан, і Сяргей Бароўскі мелі хмурыя твары. І калі з трэнерам беларусаў было ўсё ясна, — найвялікшы разгром, то Свенсан яўна ў душы радаваўся. Гэтай перамогай ён разагнаў футбольныя хмары над Швецыяй і над сабой асабіста.

У адрозненне ад абсалютнай большасці нашых футбалістаў шведскія адразу ж пасля душа выйшлі да журналістаў і ахвотна падзяліліся ўражаннямі аб гульні.

А «зоркі» еўрапейскага футбола Кенет Андэрсан і Марцін Далін пры пасрэдніцтве ўкраінскага эмігранта Вадзіма Еўтушэнкі, вядомага ў мінулым футбаліста днепрапятроўскага «Дняпра» і кіеўскага «Дынама», з ахвотай удзялілі некалькі хвілін і беларускай прэсе. Абодва ігракі мелі прыкладна аднолькавыя думкі.

Аўтар хет-трыка Андэрсан сказаў, што ім вельмі дапамог пенальці. Хуткі гол дазволіў ім дзейнічаць разняволена і ўпэўнена.

Форвард італьянскага клуба «Бары» адзначыў важнасць гэтай перамогі, высока ацаніўшы гульню Бялькевіча.

Марцін Далін таксама падкрэсліў, што пенальці стаў для шведаў палачкай-выручалачкай. Ён значна паўплываў на ход далейшых падзей на полі.

На пытанне, як бы выглядала беларуская каманда стакгольмскага варыянта ў бундэслізе, дзе Далін правёў ужо не адзін сезон, цёмнаскуры швед толькі ўсміхнуўся. Маўляў, такая каманда там не затрымалася б.

Вядома, не хацелася б рабіць трагедыі з аднаго пройгрышу. Справядлівасці дзеля трэба сказаць, што ў шведаў гэта быў 106-ы матч у рамках адборачных гульняў і фінальных матчаў чэмпіянатаў свету, а ў Беларусі — толькі першы.

Да таго ж, скандынавы ў дамашніх кваліфікацыйных гульнях абыгрывалі ізраільцян — 5:0, мальтыйцаў — 4:0, партугальцаў — 3:0. А апошнюю сустрэчу дома шведы прайгралі шатландцам 0:1 10 верасня 1980 года. Пройгрыш беларусаў можна было б спісаць на розныя вагавыя катэгорыі каманд, тытулаванасць саперніка, футбольны стаж у рамках гульняў чэмпіянату свету. Калі б не адна акалічнасць. На «Расундзе» абсалютная большасць нашых ігракоў, маючы аднолькавы ўзрост са шведамі, выглядалі хлопчыкамі для біцця. Праўда, калі гэта быў эксперыментальны састаў — дык гэта паўбяды, а калі не — дык бяда. Наперадзе гульні не менш адказныя. А значыць, эксперыментаваць не час.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*Мінск—Стакгольм—Мінск.*

**P. S.** У суботу ў Еўропе прайшло яшчэ некалькі адборачных гульняў.

Вось іх вынікі:

***Група 3***
Нарвегія—Азербайджан — 5:0

***Група 6***
Югаславія—Мальта— 6:0

***Група 7***
Сан-Марына—Уэльс — 0:5

***Група 8***
Ісландыя—Македонія — 1:1

**Наступную сустрэчу наша зборная правядзе 31 жніўня дома са зборнай Эстоніі.**



Адна з нямногіх удалых атак беларускай зборнай. Шведскага варатара Бенгта Андэрсана ад вернага гола пасля ўдару Валянціна Бялькевіча выратоўвае перакладзіна.

Генрых ДАЛІДОВІЧ

# КЛІЧ РОДНАГА ЗВОНА

— Дзякуй, князь. Я не галодны. Нам трэба найперш пагаварыць. Пра неадкладнае.

— Садзіся, пі, еш і гавары, — знарочыста перад сваімі гасцямі падбадзёрыўся Міндоўг.

— Мне князь, — ён не сеў, — трэба пагаварыць з табой сам-насам.

— Гэта — мае... нашы сябры! Ад сяброў не можа быць сакрэтаў!

— Мой ваяводскі абавязак, князь, сказаць сваё спярша табе. А ты пасля сам глядзі, што і як табе рабіць, — сказаў Усяслаў так, каб і свайго дабіцца, і Міндоўга перад крыжакамі не прынізіць: госці пільна за ўсім назіралі і чуйна ўсё слухалі. Што да яго, Усяслава, дык ён быў ім больш чым нялюбы. Уведалі ўжо: Міндоўгу ўцешліва, што ён гэтак высока тут узнёсся, але той не аддасць жыццё за Навагародак, якога ў душы баіцца, а вось ён, Усяслаў, ахвяруе і сабой дзеля Бацькаўшчыны, а гэта значыць іхнім, крыжацкім, слугой ніколі не стане. Ён не паасцерагаецца ў патрэбны час патурыць адгэтуль і крыжакоў і Міндоўга.

— Прашу выбачыць, шаноўныя госці, служба ёсць служба, — як ні нашэптавалі, ні настройвалі дагэтуль Міндоўга на Усяслава крыжакі, той, крэкчучы, нялёгка падняў з мяккага, накрытага мядзведжай шкураю крэсла сваё насычанае пітвом і ежаю цела, пахістаўся ў суседні пакой. Усяслаў, зайшоўшы за ім, шчыльна зачыніў за сабою дзверы.

Міндоўг — цяпер, здаецца, і не такі п'яны ўжо, з узлахмачанымі рыжыміваласамі і барадой, у мяккіх ірховых (замшавых) ботах, у сініх нагавіцах і белай кашулі — скрыжаваў на грудзіне рукі і ўсміхнуўся: — Асуджаеш?

— Не ўхваляю, Мендог, — працадзіў праз зубы Усяслаў.

— Ведаю цябе, вашу... нашу навагародскую Раду: я вам не падабаюся, але я вам трэба! Значыць, вы паступіце так: спаўняю вашу волю — я вам падыходжу, заікнуся пра сваё — вы мяне далоў!

— Не задзірайся, Мендог, — без ніякай злосці, з разуменнем да Міндоўгавай успышкі прамовіў ён. — Я прыехаў сюды пагаварыць з табой пра іншае.

— Я веру табе, — Міндоўг усё ж быў нецвярозы, паківаў перад ім пальцам. — Ты, Усяслаў, ліс, воўк і зубр, я перад табой заўсюды магу стаць на калені, але не ўніжай мяне, прашу цябе. Вам Мендог, — чыркнуў верхнімі пальцамі правай рукі сабе па шыі, — во так патрэбен! Я нічога не магу без вас, але вы шмат не можаце без мяне!

Пасля гэтага Міндоўг ледзь не ўсхліпнуў, павёў туды-сюды галавой — не, не ад хітрасці, якой у яго было нямала, а ад скрушлівасці.

— Я не прыехаў цябе ўшчуваць, — супакоіў ахмялелага «гаспадара» Навагародска-літоўскай зямлі Усяслаў. — Я прыбыў сюды, каб з табой сур'ёзна пагаварыць.

— Так, я гуляю з тэўтонамі, — хіснуўся да яго Міндоўг. — Паю-кармлю-лісліўлю перад імі, нават больш, чым некалі перад князем Ізяславам і табой! Я... мы з табой... — Зашаптаў яму на вуха. — Павінны іх абдурыць! Разумееш, ты, самы разумны тут, на гэтай незвычайнай зямлі?!

— Разумею, — змякчыўся душой Усяслаў, — але...

— Вы пагарджаеце, злуецеся, праклінаеце мяне, што я сышоў ад вас, марную час з тэўтонамі, — яшчэ бліжэй ліпнуў да яго расчулены Міндоўг. — Яны не любяць, ненавідзяць мяне, а я не люблю, ненавіджу іх, біў і буду біць іхняе змяінае кубло! Верыш у гэта?

— Веру, — яшчэ болей памякчэў ён.

— У мяне во тут, — пастукаў кулаком па сваёй грудзіне Міндоўг, — наша, славянская, ідэя! Кіеўская Русь пала, нейкая іншая, незразумелая Русь паўстае ў Залессі, але мы з табой здаровае славянства павінны ўсталяваць тут, у Навагародска-літоўскім гаспадарстве! І, павер, я дзеля гэтага вытрымліваю не меншыя, а яшчэ большыя пакуты, чым ты! А вы, ісціныя навагародцы, мной за гэта пагарджаеце!

— Хопіць пра гэта, Мендог, — прамовіў Усяслаў.

— Канечне, ты, змій альбо праведнік вялікі, усё разумееш і сам. Але, — Міндоўг зашаптаў яшчэ цішэй, — хоць ты скажы Радзе: я не гуляю тут, не ўцешваю тэўтонаў, я іх вывучаю і ўсыпляю! Я «аддаю» ім тыя землі, што не мае, гэта для іх нямала, я ох колькі нажываю сабе варожасці, але я змушаю іх ахаваць наш Навагародак! Так, я згаджаюся (пра што ты добра ведаеш ад сваіх віжоў, якія проста аблыталі мяне тваёй павуцінай) пусціць каталіцкую веру на літоўскую зямлю, паставіць тут касцёл, але я, — Міндоўг зусім блізка наблізіўся да яго вуха, — ніколі, чуеш, ніколі не пайду на тое, каб касцёл, біскупства тут залежала ад Рыгі (як і ты, я ведаю пра сутычкі «старых» і «новых» германцаў, спрэчкі, бойкі Фрыдрыха з рымскім папам, мы гэтыя спрэчкі ды сутычкі павінны толькі развіць), а па-другое, вер: я ніколі, чуеш, ніколі не дапушчу сюды Сільверта, якога я, ненавідзячы сябе, заварожваю як ісціны язычнік, а прывяду іншага, нам падуладнага! У мяне ёсць ужо такі на прыкмеце біскуп. Ён будзе рады, што яго ўзвысяць, пераводзячы сюды, ён паспрыяе, каб я начапіў на сваю рыжую галаву каралеўскую карону і займеў апеку ад рымскага папы, але я ўсё гэта, як вы і хочаце, пасвячу вам, Навагрудку! Чорт мяне схапі, зглумі, кінь у кацёл з гарачай смалою — я ваш, толькі ваш! Што скажа Навагародак, што скажаш ты, уладарца яго, я тое і зраблю! — Міндоўг амаль захліпаў ужо і ад хмелю, і ад таго, што было на душы. — Ці вы ну, прызнайся, трымаеце мяне толькі за выканаўцу вашай волі і паводзіце са мной як... — Міндоўг абахапі галаву рукамі. — Я для вас быў і ёсць наёмнік! Хоць бы крыху ты, уладарца, мяне пашанаваў: ведаеш, яшчэ як ведаеш, што тэўтоны мяне, вас цяпер ратуюць, але ты не ўважыў іхніх правіл, як і раней, самачынна зайшоў да навагародскага князя!

— Што ж, трэба загульваць, — прамовіў Усяслаў. — Але не варта даваць ім гардавусіць. Няхай не будзе панадна ім у нас, у Навагародска-літоўскім гаспадарстве, класці свае ногі на наш стол!

— Ды яны ведаюць добра, што такое Навагародак і што я не столькі служу, колькі прыслужваю вам! — як чалавек нецвярозы зноў паўтарыўся Міндоўг.

— Хопіць, Мендог, пра гэта, — рашуча перапыніў яго Усяслаў. — Паўтару: я прыехаў сюды не для таго, каб глаголіць пра нашы з табой варункі. Прыбыў для таго, каб тоесёе сказаць, з чымсьці з табой, нашым князем, параіцца. Усё ж ты — наш князь вялікі для ўсіх нашых няпростых суседзяў! Гаспадар досыць вялікай зямлі! Цябе князі Аляксандр, Андрэй і Даніла, яцвягі, Куявія і Мазовія баяцца не менш Батыя!

— Ладна, хітрун, — адышоў да акна з сямі былых кіўскіх шкліц Міндоўг, — гавары, чаго сюды ўварваўся. Якія такія змрочныя звесткі маеш мне сказаць? Можа, навагародскія радцы рашылі прагнаць мяне? За тое, што я адышоў ад вас, схаваўся тут? За тое, што шапчуся з тэўтонцамі? Вы рашылі аддаць мяне на згубу? Прашу цябе, усё гавары сумленна! Я даўно ўжо надумаў: знікне для мяне навагародская міласць — мне няма паратунку! Адно выйсце: нож у жывот!

— Не спяшайся сам пазбавіць сябе жывата[1], гэта прагнуць зрабіць іншыя.

— Нейкую змову раскрыў супраць мяне?

— Больш. Да слова, якія ты, князь, маеш навіны з Жамойці?

— Навіны адтуль вядомыя, — скрывіўся Міндоўг. — Выкінт і Таўцівіл праседжваюць ночы і кумекаюць, як, кажучы тваімі словамі, пазбавіцца ад мяне!

— Не толькі кумекаюць. Яны спажылі момант, што ты цяпер асеў тут, у сваім былым стольцы[2], дык Таўцівіл робіць на цябе выцечку[3]. Борзе чакай яго каля Руты.

— І з вялікай сілай ідзе?

— З харугвамі[4]: Данілавы полаўцы, яцвягі, Выкінтавы вoi.

— Лупежнік[5]!

— Страшней. Сам ведаеш: воўк кожны год ліняе, але нораву не мяняе. І гэты іхні вырак[6] табе, думаю, не апошні. Ні Даніла Галіцкі, ні Выкінт, ні гэты малады Ўрвіцель не супакояцца датуль, пакуль не расправяцца з табой і не адлучаць ад Навагародка Літву.

— Ведаю. Але я зноў уведваю пра такое важнае, як выцечка, не ад сваіх віжавых! Вушлы гэты твой Голуб, дападныя твае віжавікі! Недарэмна ты не саступаеш іх мне, а трымаеш у сваіх руках!

— Прывык, каб табе ўсё саступалі, — пацвеліўся Усяслаў. — Мы — уладу над Навагародкам, Вышымот — сваю маладую жонку!..

[1] *Жывот — жыццё.*
[2] *Столец — сталіца.*
[3] *Выцечка — ваенная вылазка.*
[4] *Харугва — вайсковая сіла да альбо і болей тысячы воінаў.*
[5] *Рабаўнік.*
[6] *Вырак — прысуд.*

Заканчэнне. Пачатак у №№136-137.

## ШАНЦАЎ СТАЦЬ СУПЕРМАДЭЛЛЮ Ў БЕЛАРУСКІХ ЖАНЧЫН ПРЫБАЎЛЯЕЦЦА

**Непрыгожых жанчын, як вядома, не бывае. Але стаць каранаванай «міс» выпадае найчасцей тым, у каго рост пад 180, а памер адзення — 44. Згадзіцеся, даволі жорсткія абмежаванні.**

Таму знакаміты Саша Варламаў разам са сваім Тэатрам моды і саветам заснавальнікаў вырашылі рассунуць рамкі традыцыйнага конкурсу «Супермадэль Беларусі» і ўпершыню ў рэспубліцы ўвесці намінацыю «маленькая мадэль» (рост 165 —172 см), а паколькі найлепшае ўпрыгажэнне для маленькай жанчыны — высокі мужчына, то і намінацыю «мужчынская мадэль». З'явілася магчымасць пераканаць у сваіх вартасцях і ў тых, каго прырода больш шчодра надзяліла пэўнымі параметрамі, — прапануецца пазаконкурсная намінацыя «поўная мадэль» (памер адзення 48-ы і вышэй).

Пра ўсё гэта зацікаўленая публіка даведалася на прэзентацыі конкурсу, што адбылася напрыканцы мінулага тыдня. Ва ўтульнай вячэрняй абстаноўцы Саша Варламаў падзяліўся сваімі задумамі, прадставіў удзельнікам спявачку Ірыну Нікітчык, якая выканала новыя песні кампазітара Сяргея Хвашчынскага на ягоныя, Сашавы, словы, а таксама на вершы Фёдара Баравога. Мадэлі ўсіх параметраў, а прасцей — проста прыгожыя жанчыны, дэманстравалі калекцыі адзення сезона, несумненнай вартасцю якой з'яўляецца хаця б тое, што ўсё яно выраблена на беларускіх прадпрыемствах. Гітарыст-віртуоз Валерый Дзядзюля шчыраваў на ніве стварэння цёплай абстаноўкі для яднання гасцей.

Потым мадэлі вячэралі з гасцямі, падчас чаго ў карэспандэнта «Звязды» (мужчыны) узнікла ідэя — а чаму б не заснаваць намінацыю «маленькія і поўныя»?

**Ул. інф.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ГАРЫЦЬ УСЁ ГАРАМ

**Сталі вядомы некаторыя падрабязнасці пажару ў Крычаве, у выніку якога загінула 8 чалавек. Беспрэцэдэнтная па ахвярах трагедыя (следства яшчэ вядзецца, але спецыялісты абласнога ўпраўлення ваенізаванай пажарнай службы высновы ўжо зрабілі) стала магчымай з-за прычын, якія стварылі самі жыхары інтэрната завода гумавых вырабаў.**

Па-першае, п'янства. Прадпрыемства напярэдадні разлічылася з работнікамі па зарплаце, і інтэрнат «гудзеў». Насельнікі да таго затуманілі свае галовы спіртнымі напоямі, што нават не падпарадкоўваліся камандам пажарных. Спатрэбілася выклікаць міліцыю і людзей выратоўваць гвалтоўным чынам. Па-другое, пагардлівыя адносіны да пытанняў пажарнай бяспекі з боку адміністрацыі завода. Аказваецца, незадоўга да гэтай трагедыі інтэрнат ужо мог згарэць: сваволіла пакінутае без нагляду дзіця. Пажарная служба прадпісала кіраўніцтву завода ліквідаваць шматлікія парушэнні, але, хоць і было гэта ў пачатку года, недахопы заставаліся да пары, пакуль гром не грымнуў. Па-трэцяе, перанаселенасць, што характэрна, вядома ж, не толькі для гэтага інтэрната. Пакоі ў будынку разлічаны на адзінокіх жыльцоў, а жывуць — сем'ямі. Адсюль самаробныя прыстасаванні, каб арганізаваць хоць нейкі сямейны быт.

І, апошняе, — абыякавасць. Пачатак загарання бачыла жанчына, але яна не забіла трывогу, а забрала дзіця і пакінула інтэрнат.

Між тым колькасць пажараў на Магілёўшчыне павялічваецца. У першым квартале г. г. у вобласці адбылося 597 пажараў — на 151 больш, чым летась. Што самае страшнае, у агні гінуць людзі: 62 жыццяў сёлета ўжо не стала.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

*Віншуем з днём нараджэння Мікалая Іванавіча ЛУНЦЭВІЧА. Жадаем здароўя, кахання і добрых сяброў.*

**Сястра, швагерка, бацькі.**

*Віншуем з днём нараджэння Таццяну Віктараўну ЖОГЛА. Жадаем усяго самага лепшага.*

**Валейцюкевічы-Жогла.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння дарагую любімую мамачку Зофію Іванаўну КУЛАГІНУ.*

*Жадаем добрага настрою, здароўя на доўгія гады, дабрабыту.*

**Дзеці, унукі, муж.**

**Згубленае льготнае пасведчанне на праезд № 000406 серыі ЖР, выдадзенае на імя ЕЛЬЦАВАЙ Раісы Анатольеўны, ЛІЧЫЦЬ НЕСАПРАЎДНЫМ.**

**Згубленае пасведчанне аб ільготах № 53 серыі СР, выдадзенае на імя Валіцкага Славаміра Мікалаевіча, ЛІЧЫЦЬ НЕСАПРАЎДНЫМ.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 4 чэрвеня

### Беларускае тэлебачанне

**8.53** Выпускны экзамен па беларускай і рускай мовах за курс базавай школы. **9.00** Абібок. **9.30** «Кобра». 10-я серыя. **10.20** «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма. **10.35** «Экамір-96». «Свінская медыцына». Дак. фільм (Данія). **11.05** «Максімка». Маст. фільм. **12.20** «Чым багаты...» Аздараўленне дзяцей у санаторыі «Беларусь» (Літва). **12.35** Творцы. Народная артыстка Беларусі Людміла Бржазоўская. **13.30** Класіка на экране. «Маленькія трагедыі». 1-я серыя. **15.00** Навіны. **15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей. **15.40** «Сябры». Мультфільм. **15.55** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей. **16.25** «Шанц». Праграма па пісьмах гледачоў. **16.55** Параграф. Службы занятасці насельніцтва г. Мінска. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Каму коні сняцца ў сне...» Дак. фільм. **18.15** Будзьце здаровы. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Кобра». 11-я серыя. **20.00** Вертыкаль. Інтэрв'ю старшыні Віцебскага аблвыканкома У. П. Андрэйчанка. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** С. Любшын і І. Мураўёва ў маст. фільме «Вялікая пастка, ці Сола для кошкі пры поўні». **23.40** Чэмпіянат Беларусі па спартыўнай гімнастыцы. У перапынку (**24.00**) — Навіны.

### ГРТ

**6.45, 7.50, 14.50, 19.35, 21.10, 23.50** Выбары-96. **7.00. 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 24.00** Весткі **7.20** У гэты дзень... **7.30** Дзелавая Расія. **8.05** «Твар з вокладкі». Я. Осін. **8.20** L-клуб. **9.05** «Санта-Барбара». **9.55--10.20** Кліп-антракт. І. Славеснік. **13.50** «Мядзведзь-золаташукальнік». Мультфільм. **14.00** Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя. **15.00** «Вясёлая карусель». Мультфільм. **15.20** Вясёлы вецер. **15.35** Там-там навіны. **15.50** Каляндар. **16.20** Расія ў тварах. **16.45** «Дзяўчынка з заўтра». (Аўстралія). **17.10** «Маміна сямейка». Мультфільм. **17.20** Вас запрашае тэлечасопіс «Здароўе». **17.30** Прасцей простага. **18.00** Нічога, акрамя... **18.15** Галасуй, ці прайграеш. **18.30** Надзвычайны канал. **19.50** «Санта-Барбара». **20.40** Джэнтльмен-шоу. **21.25** Надвор'е на заўтра. **21.30** Сустрэнемся на «Уэмблі». **22.30** Дзённік кінафестывалю «Кінатаўр». **22.45** «Зямля». Дак. фільм цыкла «Час вялікіх падманаў». **23.20** Арт-абстрэл. **0.15** Музыка ўсіх пакаленняў. **0.30--1.10** Гукавая дарожка.

### НТБ

**17.00** «Сямейка Флінстоун». 41-я серыя. **17.30** «Багатая жанчына: быць лепш». **18.00, 21.00, 23.00** «Сёння». **18.35** Герой дня. **19.00** Маст. фільм «Паміраць не страшна». **20.45** Доктар Угол. **21.35** Гадзіна серыяла. «Доктар Куін, жанчына-урач». 67-я серыя (ЗША). **22.30** Часінка. **23.20** Вялікі рынг. **23.50** Меламанія: «Рэйнбоу».

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 14.55, 15.55, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55** Інфарм ТБ. **12.05—12.55** «Першае каханне». Серыял. **14.10** «Спякота ў Акапулька». Серыял. **15.05** Авертайм. **15.20** «Падарожжа з «Песенькай». Тэлефільм. **15.50** Стыль жыцця. **16.05** «Калі Лота стала нябачнай». Серыял. **16.30** «Філасофія па філу». Серыял для падлеткаў. **16.55** Спартыўны агляд. **17.05** Толькі без панікі. **17.30**, **18.00** Паказвае Ленінградская АТК **18.35** Вялікі фестываль. **19.05** «Першае каханне». Серыял. **20.05** Выбіраем прэзідэнта». С. М. Фёдараў, А. І. Лебедзь. **20.35** Тэлеслужба·бяспекі. **20.45** Што наша жыццё... **21.00** Спорт. **21.10** «Спякота ў Акапулька». Серыял. **22.05** «На ноч гледзячы». Забаўляльная праграма. **22.20** «Сабачае сэрца». 2-я серыя. **23.25—0.28** «Галасуй, ці прайграеш».

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2750.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12